# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

23 ЧЭРВЕНЯ 1995 г. № 23-24 (3795-3796) Кошт 400 руб.

## БУДЗЬМА РАЗАМ

У ЗМРОЧНЫЯ ЧАСЫ І ТАДЫ - ПЕРАМОЖАМ!

***Вітаем вас, шаноўныя чытачы "ЛіМа"! Вы трымаеце ў руках "свежы" нумар "ЛіМа", вы чытаеце гэтыя радкі, а значыць — "ЛіМ" выйшаў. Выйшаў, нягледзячы на ўсе сумнівы, нягледзячы ні на якое эканамічнае ці палітычнае надвор'е. Выпуск газеты можна прыпыніць, можна забараніць, як можна забараніць сімвалы альбо прыпыніць адраджэнне мовы, але нельга спыніць хаду гісторыі, нельга забараніць развіццё, прагрэс грамадства, бо, як некалі казаў мудры Крапіва: "каб сонца засланіць — вушэй асліных мала..." А таму ў гэты змрочны час нам усім, як ніколі, трэба быць аптымістычнымі і спакойна, планамерна рабіць сваю справу. Шкада, што перапынак у выпуску "ЛіМа" супаў з падпіснай кампаніяй; яшчэ больш шкада, што менавіта ў гэтыя тыдні адбыліся рэферэндум і выбары. Вядома, паўплываць нейкім чынам на іх мы не змаглі б, але тое, што менавіта на гэты час "замоўк" амаль увесь беларускамоўны друк, — таксама сімвалічна.***

***У 63-гадовым жыцці "ЛіМа" толькі аднойчы раней быў выпадак, калі выхад газеты спыняўся. То былі гады акупацыі Беларусі фашыстамі. Другі перапынак прыпаў на мірны час. Але ці назаве яго хто спакойным?.. Шчыра сказаць, невядома, што чакае нас і наперадзе. Бліжэйшая будучыня не абяцае быць светлай. Магчымыя і новыя выпрабаванні вашага і нашага цярпення. Бо "ЛіМ" па-ранейшаму застаецца дзяржаўным выданнем, наша дзяржава — беднай, а кіраўніцтва яе — непрадказальным.***

***Увесь гэты час мы адчувалі вашу падтрымку, шаноўныя чытачы. Дзякуй усім, хто патэлефанаваў нам, пацікавіўся лёсам "ЛіМа", прапанаваў сваю дапамогу, дзякуй усім, хто верыць у "ЛіМ", хто падпісаўся на наш тыднёвік і хто думае падпісацца. Так, хоць падпіска на квартал ужо закончана, выпісаць "ЛіМ" на жнівень і верасень і цяпер можна ў любым паштовым аддзяленні. Раім зрабіць гэта, бо набыць наш тыднёвік у шапіках "Саюздруку" стане з ліпеня цяжэй, ды і каштаваць ён будзе 2000 рублёў за нумар. Падпіска ж на месяц складае: у Мінску — 5000 рублёў, па Беларусі — 4000 рублёў. Выпісвайце "ЛіМ", чытайце "ЛіМ", пішыце ў "ЛіМ"! Мы заўсёды рады кожнаму вашаму лісту. З добрым словам і са словам крытыкі, з парадамі і прапановамі, з вершамі і прозай. Пішыце і чытайце, чытайце і пішыце... "ЛіМ" — ваша газета. І яна застаецца з вамі.***





## СВЯТА МАГЛО СТАЦЬ АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНЫМ...

Беларусь, кажуць, знаходзіцца ў цэнтры Еўропы — геаграфічна. Скрыжаваліся на ёй старадаўнія шляхі, а пазней стала яна памежжам для суседняга — большага — народа. Ды так, відаць, памежжам і засталася....

Летувісы шануюць Трокі, цэнтры гарадоў, абазнаных сумеснай гісторыяй нашых народаў, але трывала набыўшых ужо летувісцкае гучанне. Пскоўскі ды Наўгародскі крамлі будзяць думкі пра велічную гісторыю рускага народа. Берагуць палякі Вавель і Варшаўскі каралеўскі палац, чэхі — непаўторную Прагу, немцы — Патсдам...

Мы таксама не бедныя на адмецінны нашай магутнасці і росквіту. На жаль, яны, гэтыя памяткі даўніны, у нас амаль невядомыя і што намнога горш — нецікавыя, непатрэбныя большасці нашага люду. Летувісы дагадзілі свайму народу, прывозячы да сябе выдадзены ў нас Статут Вялікага княства Літоўскага, і звычайныя вясковыя дзядкі куплялі яго, толькі пабачыўшы імя "свайго" Вітаўта. Мы ж і блізу не можам пахваліцца хоць нечым падобным. І што хацець, калі дзесяцігоддзямі выбівалася з беларусаў гістарычная памяць? Вынікі — яскрава выявіў апошні рэферэндум.

Між тым...

У суботу 3 чэрвеня Мірскі замак святкаваў сваё пяцісотгоддзе. Славутыя імёны, змаганне, барацьба —

*(Працяг на стар. 3.)*



# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

*Лімаўскае "Кола Дзён" мерна кацілася ад пятніцы да пятніцы ўжо не адзін год. І вось яно — забуксавала. Не па нашай віне: кій у ягоныя спіцы ўторкнула адсутнасць сродкаў, знаная сёння ўсімі. Не хацелася нам парушаць традыцыю, ды — на адметнасцях якога тыдня засяродзіцца, калі "ЛіМ" не выходзіў ажно тры? Парашылі: гэтым разам (у вымушана пазначаным двайной парадкавай лічбай нумары) абыдземся без "КД". Ды будзем спадзявацца, што яно, часам гарэзлівае, іранічнае, а часам і зласнаватае, з'едлівае, зноў будзе рабіць свой кругабег, калі, дасць Бог і Мінфін, мы вернемся да ранейшага штопятнічнага жыццярытму...*

## ЧЭРВЕНЬСКІЯ "ВЕРАСЫ" ДЫ ІНШЫЯ КВЕТКІ

Да сузор'я вядомых нашых выканаўцаў, паэтаў, кампазітараў, што апанавалі сцэну Трэцяга нацыянальнага фестывалю песні ды паэзіі, дадаўся стракаты тузін зусім свежых красак — новых дыпламантаў ды лаўрэатаў конкурса маладых выканаўцаў. Сярод іх — лаўрэат III прэміі мінчук Тато Майсурадзе, віцяблянка Алена Сяргеева, адзначаная II прэміяй, уладальніца I прэміі Стэла Карагланава з Маладзечна ды лідэр конкурсу Ален — ён жа Сяргей Хамякоў з Наваполацка, узнагароджаны Гран-пры.

Тры дні доўжыўся фестываль. Карэспандэнт "ЛіМа", па дасюль невядомых прычынах не атрымаўшы запрашэння на яго канцэрты, спраўна правёў гэты час ля тэлеэкрана — як, мабыць, і большасць землякоў, якія "хварэлі" за фестываль, але не мелі магчымасці апынуцца ў яго жывой атмасферы. Што ж — канцэрт па тэлебачанні мае свае перавагі: маленькі экран часам спрацоўвае як павелічальнае шкло, і тады бачыш тое, на што проста не звяртаеш увагу, седзячы нават у першым радзе партэра, за некалькі метраў ад сцэны...

Карацей, была цудоўная магчымасць адрозніць жывое гучанне высакакласнага Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга ад фанаграм, пад якія таксама трэба ўмець працаваць. Была нагода задумацца пра тое, чаму, трапляючы ў "зоркі", нашы маладыя салісты, бывае, нагадваюць не "астральных істот", якія выпраменьваюць стабільнае і адметнае святло, а хутчэй, прабачце... падобныя між сабою бліскучыя гузікі на адпаведным гарнітуры. Была нагода парадавацца за творчы рост Алены Саўленайтэ, Ларысы Грыбалёвай, Алесі. Пабачыць верных сабе Ядзю Паплаўскую ды Аляксандра Ціхановіча, Віктара Вуячыча, Анатоля Ярмоленку, Аляксандра Саладуху. Угледзецца ў абноўленае аблічча Лікі, ацаніць сур'ёзнасць мастацтва "Палаца", паслухаць кампазітарскія спевы Ігара Лучанка ды Алега Елісеенкава, далучыцца да святкавання 25-годдзя ансамбля "Верасы", дзе гэтак самаахвярна шчыравала новая юная салістка Ірына Дарафеева. Задумацца над гарачымі радкамі новых вершаў Уладзіміра Някляева і "сэрцам растаяць" ад пяшчотнай паэзіі Леаніда Дранько-Майсюка. І пажадаць шчаслівага ўзыходжання новай "зорцы" — Алену, які будзе ў хуткім часе прадстаўляць Беларусь на "Славянскім базары" ў Віцебску. Нарэшце, сярод ганараваных лаўрамі дзяўчат — "кветак" двух мінулых фестываляў, што праходзілі ў Маладзечне, з'явіўся адметны ўпэўнены юнак!

Цудоўна, што ў такі нерамантычны час людзі не страцілі жадання спяваць і слухаць песню. Цудоўна, што кіраўнікі дзяржавы — прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ды прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір знайшлі магчымасць прыйсці на заключны канцэрт і падтрымаць нашу творчую моладзь.

Цудоўна, што кожны вечар у канцэртнай зале гучала, амаль без выключэння, беларускае слова. І цудоўна, што яшчэ не страчана надзея на вяртанне "блуднага дзіцяці" — нацыянальнага фестывалю песні ды паэзіі на яго радзіму, у Маладзечна. Бо, як, напэўна, заўважылі заўсёднікі свята, ад пераносу ў сталічную залу букет "чэрвеньскіх кветак", пра якія гэтак натхнёна спявалі ўсе ўдзельнікі фэсту, усё ж страціў і свой самабытны водар, і свой адметны каларыт...

**С. Б.**

## ВЯРТАННЕ "ТУРАЎСКАГА ЕВАНГЕЛЛЯ"

Апошнім часам прымаецца нямала захадаў, каб нацыянальныя культурныя каштоўнасці, якія ў розны час і па розных прычынах апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, вярнуліся на радзіму. Аднак гэты працэс, як вядома, няпросты. Тым не менш першыя пазітыўныя зрухі ў гэтым кірунку робяцца. Пацвярджэнне таму — і дабрачынная акцыя, што адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі: у фонды гэтага буйнейшага кнігасховішча перададзена "Тураўскае евангелле".

"Тураўскае евангелле" — унікальны рукапісны помнік XI стагоддзя, самая ранняя з кніг, што захаваліся на тэрыторыі Беларусі. Яна напісана на пергаменце, як сведчаць спецыялісты, уставам царкоўнаславянскай старажытнарускай рэдакцыі моваю. Кніга аздоблена ініцыяламі, што належаць да так званага старавізантыйскага тыпу і выкананы на зялёным фоне, а размаляваны чырвонай і сіняй фарбамі, а таксама маргінальнымі ўпрыгожваннямі, якія зроблены ў выглядзе гронкі.

Час не пашкадаваў "Тураўскае евангелле". Калі яго знайшлі ў 1865 годзе ў Тураве (адсюль, зразумела, і назва), збераглося ўсяго 10 аркушаў. Акрамя таго, былі ўкладныя запісы, зробленыя 2 мая 1508 года, 10 лютага 1513 года і ў 1781 годзе. Тады ж, у 1865 годзе, М. Сакалоў вывез гэты помнік старажытнай літаратуры ў Віленскую публічную бібліятэку. Па сённяшні дзень ён зберагаецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

А Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі перададзена копія, адна з тых, што былі зроблены ў 1868 годзе ў Санкт-Пецярбурзе. Копія, вядома, не арыгінал. Аднак перадача яе — таксама падзея знамянальная, таму і прыцягнула яна да сябе належную ўвагу. На цырымоніі перадачы "Тураўскага евангелля" прысутнічалі віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь У. Русакевіч, міністр замежных спраў У. Сянько, пасол Рэспублікі Літва ў Беларусі Ю. Баўбліс, пасол Рэспублікі Беларусь ў Літве Я. Вайтовіч (а гэта дзякуючы ягоным намаганням і прайшла акцыя), намеснік міністра культуры і друку І. Карэнда, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў і іншыя.

Прысутныя змаглі таксама пазнаёміцца і з кніжнай выстаўкай "Літва ў беларускім друку", на якой прадстаўлены шэраг кніг літоўскіх аўтараў, якія ў перакладзе на беларускую мову выйшлі ў нашай дзяржаве.

У гэты ж дзень урачыстасць панавала і ў музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У яго фонды Я. Вайтовіч перадаў альбом С. Красаўскаса "Вечна жывыя", 36 лістоў якога — апафеоз мужнасці і гераізму, рэквіем па загінуўшых.

## ДАЛУЧЫМСЯ ДА КУПАЛЫ

Дзяржаўны Літаратурны музей Янкі Купалы гэтым летам ладзіць шэраг мерапрыемстваў па далейшым ушанаванні памяці народнага песняра.

28 чэрвеня ў 8 гадзін раніцы ў касцёле Святога Роха ў Мінску адбудзецца па Купалу імша. У гэты ж дзень а 16-ай гадзіне памяць Івана Дамінікавіча будзе ўшанавана ля яго магілы на Вайсковых могілках.

6 ліпеня а 18 гадзіне ў парку імя Янкі Купалы ля помніка песняру праводзіцца свята яго народзін.

Купалава Вязынка збірае ўсіх, каму дарага імя слыннага сына зямлі беларускай, а 17-ай гадзіне 8 ліпеня.

З нагоды

# БЛІЖЭЙ ДА ЗЯМЛІ, СПАДАРОВЕ!

## ДА ВЫНІКАЎ "РЭФЕРЭНДУМУ" І ВЫБАРАЎ

Рэжысуру зрыву выбараў у Вярхоўны Савет і "перамогі" сп. прэзідэнта на "рэферэндуме" калі-небудзь будуць вывучаць у падручніках па псіхалогіі і паліталогіі. Бо гэтая акцыя ўражвае не толькі сваёй "унікальнасцю", але і выдатнай арганізацыяй, паслядоўнасцю і дакладнасцю ў выкананні. Вызначальную ролю тут адыграла ўтварэнне прэзідэнцкай "вертыкалі", якая, у сваю чаргу, утварыла з "надзейных людзей" выбарчыя камісіі, і ўсталяванне прэзідэнцкага кантролю над сродкамі масавай інфармацыі. Адыграла сваю ролю і тое, што выбары і "рэферэндум" былі прызначаны на 14 мая, адразу пасля святкавання 50-годдзя Вялікай Перамогі. Бел-чырвона-белых сцягоў не было на вайсковым парадзе, і гэта ў пэўнай ступені вызначала станоўчы адказ на другое пытанне "рэферэндуму".

Тэлевізійная агітка "Нянавісць: дзеці хлусні", двойчы паказаная на тэлеэкране, распаліла страсці ў грамадстве, развярэдзіла раны ветэранаў, А ў нашай краіне людзей сталага ўзросту болей, чым моладзі... Горад, які лічыцца сацыяльным апірышчам апазіцыі, выбары і "рэферэндум" фактычна праігнараваў. А занядбаная калгасная вёска, дзе дажываюць свой век старыя людзі, прывучаныя баяцца мясцовага начальства і верыць у справядлівасць сталічнага "бацькі", прыйшла на выбарчыя ўчасткі (а хто не прыйшоў, таму урну прывезлі дадому...). Дэмакратыя прайграла гэтыя выбары не столькі ідэалагічна, колькі дэмаграфічна. Сёння намінальную ўладу мае стары Вярхоўны Савет, але рэальная ўлада сканцэнтравана ў адных руках — у руках прэзідэнта. Кажуць, што ўлада ўвогуле разбэшчвае, але абсалютная ўлада разбэшчвае абсалютна. З чалавекам здараецца тое, што Салтыкоў-Шчадрын называў "административным восторгом", а Джугашвілі-Сталін — "головокружением от успехов". Няйначай як ад "восторга" таварыш Ціцянкоў парваў на шматкі Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь на даху будынка колішняга ЦК (цяпер, праўда, ён сцвярджае, што гэтага не было).

Спадар Лукашэнка імкнецца да абсалютнай улады, і, трэба аддаць яму належнае, пакуль у яго ўсё атрымліваецца. Але яго асабісты поспех мае фонам крызіс у эканоміцы краіны. Працягваецца падзенне вытворчасці, рост інфляцыі (не здзіўлюся, калі ў хуткім часе заробак будуць выплачваць 100- і 500-тысячнымі купюрамі, а на цэнніках рэчаў і прадуктаў першай неабходнасці з'явяцца 7—8-значныя лічбы), становіцца яўным скрытае беспрацоўе. Дададзім сюды палітычную цэнзуру і небяспеку таго, што абрэвіятура "КГБ" зноў можа набыць свой першасны злавесны сэнс..

Сёння лёгка быць Касандрай, аднак мне хацелася б убачыць і станоўчыя моманты ў нашым сённяшнім драматычным стане. Папершае, усё вышэйпералічанае адбываецца і далей будзе адбывацца пад "стара-новым" БССРаўскім сцягам і такім жа гербам. А, значыць яны з часам павінны стаць сімваламі ненавіснага народу ладу. Такім чынам ствараюцца ўмовы для трыумфальнага вяртання "Пагоні" і бел-чырвона-белага сцяга.

Што так будзе, сведчаць дзве нядаўнія падзеі: дэманстрацыя рабочых Мінскага камвольнага камбіната ля прэзідэнцкай рэзідэнцыі з патрабаваннямі "хлеба, працы і заробку" і маладзёжны хепенінг "Ненавісць 2: дзеці хлусні вяртаюцца". Кульмінацыяй хепенінгу быў урачысты, пад спеў гімна БССР уздым БССРаўскага сцяга над прыбіральняй, што ля Купалаўскага тэатра.

"Рэферэндум" падзяліў беларускае грамадства, але ўвогуле палітыка прэзідэнта спрыяе аб'яднанню супрацьлеглых палітычных сіл. Яшчэ ў часе работы старога Вярхоўнага Савета палітычныя апаненты разам падавалі заявы ў Канстытуцыйны Суд на неадпавядаючыя Канстытуцыі указы прэзідэнта. Цяпер нешта падобнае можа адбыцца ў большых маштабах. Прэзідэнт непрыхільна ставіцца да любой арганізаванай сілы, да любой партыі, якая стаіць на ягоным шляху да абсалютнай улады. Тут ён не робіць розніцы паміж БНФ і камуністамі, паміж аграрыямі і камерсантамі. Нездарма камуністы, заклікаючы сваіх прыхільнікаў падтрымаць сп. Лукашэнку па трох пытаннях "рэферэндуму", раілі па апошнім выказацца супраць. Ведаючы, што ў бліжэйшай (і далёкай таксама) перспектыве на Беларусі не будзе прэзідэнта-камуніста, ім зусім не хочацца, каб сённяшні альбо які-небудзь будучы "беспартыйны" прэзідэнт адным росчыркам пяра пазбавіў іхніх таварышаў па партыі і ідэалогіі дэпутацкіх паўнамоцтваў, а ПКБ — высокай трыбуны. Гэта можа быць падставай для паразумення па некаторых пытаннях паміж сённяшнімі амаль што ворагамі. Бо такія ж праблемы і ў іншых партый.

Сваімі "крутымі" мерамі ў падаткава-фінансавай сферы Аляксандр Рыгоравіч настроіў супраць сябе людзей з грашыма — прадпрымальнікаў. Ён не хавае намеру пад выглядам навядзення парадку правесці вялікую экспрапрыяцыю. Яму, зрэшты, і грошы больш няма адкуль узяць. Расія мае намер прыдбаць Беларусь задарма, Захад не спяшаецца інвеставаць эканоміку краіны, хворай на камунізм і бальшавіцкую геральдыку. Адсюль чарговае "взять и поделить". Нездарма "Белорусская деловая газета", "Белорусский рынок", "Газета Андрея Климова" ды іншыя падобныя ім выданні загаварылі мовай "Свабоды".

Што альбо хто можа аб'яднаць нацыяналістаў, камуністаў і прадпрымальнікаў? Агульная ідэалогія? Не, агульныя інтарэсы...

14 мая ў развіцці нацыянальна-дзяржаўнай ідэі скончыўся рамантычны перыяд. Да "рэферэндуму", нягледзячы ні на што, верылася, што ідэі Адраджэння, Незалежнасці, Дэмакратыі настолькі цудоўныя і зразумелыя, што самі сабою, без асаблівых клопатаў дойдуць да сэрцаў і розуму людзей.

Дагэтуль беларуская нацыянальная справа была пераважна асветніцтвам, культурніцкай дзейнасцю, чым заўгодна, толькі — не палітыкай. Можа, таму, што палітыка — брудная рэч, і ніхто не хацеў пэцкаць рукі. Аднак жа — бліжэй да насельніцтва, спадарове эліта! Павучымся ў апанентаў.. Бліжэй да зямлі!..

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Адгалоскі

# СУПРАЦЬ САМІХ СЯБЕ

Бурліць грамадства. Беларусы ўласнымі рукамі далі згоду на знішчэнне асноў сваёй нацыянальнасці. Цяжка ўсё гэта бачыць і чуць. Болем сардэчным праходзіць яно праз свядомасць тых, хто добра разумее ўплыў вынікаў рэферэндуму на будучае самастойнасці Беларусі, яе карэннага народа.

На вуліцах, у магазінах, у транспарце, у сем'ях успыхваюць дыскусіі і спрэчкі. Я таксама паспрачаўся быў з адным сваім знаёмым. Ягоная думка была прыкладна такая. Мова — з'ява другарадная, галоўнае — эканоміка, матэрыяльная забяспечанасць, якой спрыяць быццам бы будзе Расія; сцяг і герб нашы зараз — БНФаўскія, здрадніцкія, фашысцкія; пры савецкай уладзе жыць было добра. Я слухаў і здзіўляўся. Мой знаёмы — беларус, яго бацьку знішчылі як ворага савецкай улады і нацдэма, як прадстаўніка найбольш працавітай і ўдумлівай часткі беларускага сялянства. Чаму ж забыта ганьба ўсяго роду гэтага чалавека? Успомнілася, што мой прыяцель быў членам КПСС, удзельнічаў у вайне супраць фашызму, стаў афіцэрам, займаў сярэднія кіруючыя пасады, вучыўся па хлуслівай гісторыі, не меў аніякага ўяўлення аб сапраўдным мінулым беларускага народа, аб лёсе мовы і яе ролі ў станаўленні нацыянальнага характару беларусаў. Дагматызм савецкіх часоў увайшоў у яго свядомасць на генным узроўні і не даваў яму магчымасці самастойна думаць, разумець сутнасць сучасных заблытаных грамадскіх працэсаў Беларусі. А яны прыйшлі не самі, да іх якраз і прывяла савецкая ўлада знішчэннем каля мільёна лепшых людзей беларускай нацыі, стварэннем хваравіта залежнай эканомікі (у асноўным — толькі для патрэб СССР), супрацьстаяннем законам агульначалавечай супольнасці, прыніжэннем чалавечай асобы, абмежаваннем магчымасцей для яе самастойных пошукаў і развіцця. Даказаць што-небудзь субяседніку было цяжка — ён не ўспрымаў аніякіх довадаў, быў зацяты і — агрэсіўны.

Дарэчы, адразу ж наогул узрасла агрэсіўнасць інтэлектуальнага наступу адпаведнай часткі грамадзян на беларускасць. Заходжу, напрыклад, у прыёмную рэктара аднаго з інстытутаў. А там "и. о." загадчыка адной з кафедраў зневажальна кажа літаральна наступнае: "Как хорошо, что белорусский язык отменяется! Отлетит сейчас всякая белорусская шелуха". Мне і раней даводзілася чуць ад яе брыдоты, накшталт: "Пусть помолчат эти белорусы, мы приехали, так их хоть чему-то научили". Аднак мне добра вядома, што ніхто гэтую даму сюды не запрашаў. Яна прыехала да нас з бацькам, які быў прысланы для ўмацавання савецкай улады і працаваў, здаецца, намеснікам міністра. Нельга было знайсці на гэтую пасаду карэннага жыхара? Не шукалі. Прысылалі. У гарадах Беларусі рускіх у сярэднім 20-25 працэнтаў. Значная іх частка была прыслана — чыноўнікамі, навукоўцамі, вайскоўцамі. Іх дзеці першачаргова атрымлівалі вышэйшую адукацыю, таму ў ВНУ Беларусі палова выкладчыкаў — не беларусы, якія нярэдка варожа (хоць і не адкрыта) ставяцца да беларускасці і ўздыхаюць па Расіі. А яны ж выраслі на

Вечарыны

# КАЛІ ГАВОРАЦЬ ПАЭТЫ...

Не, на жаль, у наш надзіва складаны і супярэчлівы час гарматы не змаўкаюць і людская кроў не спыняе ліцца. Але адначасова адно несумненна: калі гаспадарыць паэзія, усё ж чалавечыя душы дабрэюць, прагнуць гармоніі і хараства, ім хочацца таго суладдзя, што наступае падчас дзіўнага азарэння, калі, азірнуўшыся наўкола, хочацца сказаць: "А жыццё прыгожае! І чалавек у ім прыгожы!" І ўжо толькі ад самога чалавека залежыць, якому быць гэтаму жыццю ў далейшым.

Здавалася б, ісціны. Аднак яны набывалі своеасаблівы сэнс у час нядаўняга вечара "Суразмоўе паэтаў", наладжанага ў Доме літаратара Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Нямецкім культурным цэнтрам імя Гётэ. І не ў апошнюю чаргу дзякуючы таму, што вельмі ўдала былі падабраны самі суразмоўнікі. З беларускага боку — Ніна Мацяш, з нямецкага — Эльке Эрб.

Імя Н. Мяцяш аматарам паэзіі добра вядома. Тым не менш — колькі слоў пра яе. Родам з вёскі Нівы Бярозаўскага раёна, скончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, жыве ў Белаазёрску. У 1984 годзе за "Паэму жніва" стала лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова. Добра вядома Н. Мацяш і як драматург. А яшчэ яна па-майстэрску пераўвасабляе творы з французскай, нямецкай, украінскай і іншых моў.

А вось імя Э. Эрб да нядаўняга часу няшмат гаварыла нам. У Германіі ж творчасць яе (піша лірыку і кароткую прозу, а таксама працэсуальныя тэксты ў форме, блізкай да паэзіі) добра вядома. Шмат увагі ўдзяляе Э. Эрб і перакладу. З беларускай мовы, у прыватнасці, яна пераўвасобіла творы той жа Н. Мацяш, а таксама Алеся Разанава. Э. Эрб за кнігу "Каштанавая алея" ў 1987 годзе атрымала прэмію Петэра Тухеля, а праз тры гады стала лаўрэатам прэміі Генрыха Мана, якую прысуджае Нямецкая Акадэмія мастацтваў.

І вось — "Суразмоўе паэтаў"... Дыялог, сведкам якога сталі ўсе, хто сабраўся гэтым разам у вялікай зале Дома літаратара. У нейкай ступені ўяўленне аб гэтым дыялогу могуць даць ужо тыя радкі кожнай з паэтэс, якія былі вынесены ў якасці эпіграфаў на запрашальныя білеты.

У Э. Эрб — гэта:

**Мяне цікавіцьураўненне,**
**Мяне абяззбройвае**
**знак роўнасці,**
**Мяне ўзварушвае таўталогія.**

У Н. Мацяш:

**Не бойся, ты не самотны**
**ў сусвеце:**
**І дзеля цябе сонца свеціць.**

Паэзія Э. Эрб пабудавана на нечаканых словаўтварэннях, паэтэса любіць гульню слоў. У лірычнай жа манеры Н. Мацяш прысутнічае тая мудрая разважлівасць (не пазбаўленая філасофскага пачатку), якая, аднак, не адмаўляе блізкасці да зямной асновы.

У рэшце рэшт адметнасць манеры кожнай з іх і змаглі адчуць прысутныя. Спачатку свае творы чытала Э. Эрб і адразу ж яны гучалі ў перакладзе Н. Мацяш на беларускую мову. Затым Э. Эрб і Н. Мацяш як бы памяняліся "месцамі". Н. Мацяш дэкламавала ўласныя вершы, а Э. Эрб перадавала іх пераўвасобленымі па-нямецку.

А на змену дыялогу паэтычнаму прыйшоў дыялог у пэўнай ступені літаратуразнаўчы. У сваёй далейшай гаворцы Э. Эрб і Н. Мацяш закранalі самыя розныя моманты ўласнай творчасці, а таксама асобныя праблемы перакладу, гаварылі аб ролі паэзіі ў сучасным грамадстве, адказвалі на пытанні зацікаўленай аўдыторыі.

Дарэчы, яшчэ на самым пачатку "Суразмоўя..." пра творчасць Н. Мацяш прысутным расказаў А. Разанаў, а свайго роду ўступам да вечарыны стала выступленне дырэктара культурнага цэнтра імя Гётэ Веры Багальянц. Як прызналася спадарыня Вера, яна даўно хацела правесці падобнае мерапрыемства, але на ажыццяўленне яго спатрэбілася два гады. Як па нашых мерках, дык гэта не так і шмат. Калі ж прыняць пад увагу нямецкую пунктуальнасць...

І ўсё ж, галоўнае — "Суразмоўе..." адбылося. Усцешна, што сёння, калі некалі моцныя стасункі паміж асобнымі дзяржавамі з цяжкасцю вытрымліваюць выпрабаванне на трываласць, культурны мост паміж Германіяй і Беларуссю набывае яшчэ большую моц.

**А. М.**

# СВЯТА МАГЛО СТАЦЬ АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНЫМ...

*(Пачатак на стар. 1.)*

усё гэта ў ягоных сценах. На жаль, ён адзіны ў рэспубліцы так добра захаваўся і збольшага адрэстаўраваны. Ёсць, вядома, і Нясвіжскі палац, перароблены пад санаторый, ёсць напаўразбураныя, зганьбаваныя надпісамі на сценах Ружаны і Косава, ёсць яшчэ тое-сёе ў падобным стане. Мір жа здалёк прыкоўвае погляд абрысам вежаў, гарманічным колерам сцен, буйной зелянінай парку. Хадзілі гаворкі колькі год таму, што нашчадкі былых уладароў хацелі ўзяць замак на сваё ўтрыманне (мабыць, таму, што дзяржава не берагла), але — не ўзялі. А даўно гэты помнік мог бы быць адрэстаўраваны, даўно можна было б адчыніць там музей, дадаць яму "рамантызму" — каваных рашотак, флюгераў, ланцугоў на мосце (Ці ж мала можна было напрыдумляць адзнакаў сярэднявечча). І — вазіць турыстаў. А пасля — наведваліся б сюды і "свае", тутэйшыя, каб парадаваць вока, паганарыцца за сваіх таленавітых і мужных продкаў. Як гэта натуральна ва ўсім свеце!

У суботу 3 чэрвеня ў Міры было надзвычай людна. Адзначалі свята шэсцем, паядынкамі рыцараў, афіцыйнымі прамовамі, народнымі гуляннямі, старадаўнімі дзействамі з князямі і князёўнамі, панамі, мядзведзямі і цыганамі. Цуд, адным словам. Танчылі і спявалі самадзейныя артысты, людзі загаралі і купаліся. Але над усёй гэтай нібы бесперапыннай весялосцю вітала лёгкая напружанасць. Дэманстратыўна тамсям узнікалі бел-чырвона-белыя сцягі на маленькім святочным пляцы, абкружаным міліцыяй і амонам. Былі сцягі і ў самім пасёлку — толькі чырвона-зялёныя. А праз пару дзён аднекуль з'явілася чутка, што свята тое было нацыяналістычнае. Што ж, лёгка зганьбіць кожны крок у бок сваёй гісторыі, але — як толькі пасля апраўдвацца будзем?

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*









сoках беларускай зямлі і імкнуліся сюды па прычыне рахманасці беларускага народа.

А прыгадаем урачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю Перамогі. Тут беларускім духам і не пахла. Усюды гучала адно — "великий советский народ". А між тым, калі б не было Беларусі, як буфера, то фашысцкія армады да зімы 1941 года даехалі б да Урала.

Я пішу гэта зусім не для таго, каб распаліць варожасць. Пішу таму, што наступ антыбеларускіх сіл, іх агрэсіўнасць павялічваюцца. Ціск на простага, даверлівага беларуса і паспрыяў таму, што ён, не разабраўшыся, прагаласаваў супраць самога сябе. На такі зыход рэферэндуму была скіравана і даволі правакацыйная хітрасць пытанняў, якія былі такія: Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статуса з беларускай? Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь? Ці падтрымліваеце Вы дзеянні прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?

Вядома ж, што адказ на любое пытанне залежыць ад яго мэтанакіраванай формы. Дык вось, пытанні для рэферэндуму і былі сфармуляваны так, каб атрымаць пажаданыя прэзідэнту адказы — "згодзен". І каб, апрoч таго, можна было выкарыстоўваць вынікі рэферэндуму як заўгодна. Бо хто ў Беларусі супраць рускай мовы? Практычна, ніхто. Яна на працягу вякоў убівалася ў кожнага беларуса пад акампанемент непатрэбнасці беларускай мовы. Апошняя і зараз ганьбуецца на ўрадавых узроўнях і рознымі беларусафобамі як проста нікчэмная. Таму (пры жаданні знайсці ісціну з улікам прыгнечанасці сукупнага беларускага характару) трэба было спачатку растлумачыць, што падразумяваецца пад паняццем "дзяржаўная мова". А галоўнае — ці разумна, ці можна наогул выносіць на рэферэндум пытанні культуры (у тым ліку мовы і нацыянальнай атрыбутыкі — герба і сцяга)? Гэта справа спецыялістаў, прапановы якіх пры неабходнасці зацвярджаюцца парламентам.

А што да трэцяга пытання, дык вельмі розны змест можна ўкласці ў паняцце "інтэграцыя" (зыходнае лацінскае — разам). Гэта — па-першае. Па-другое, агульны з Расіяй кацёл проста немагчымы без агульнай палітычнай улады, без агульнага войска, без агульных каўказскіх і іншых расійскіх войнаў і без яе супрацьстаяння з Захадам і Усходам, без яе імкнення выкарыстаць Беларусь у сваіх геапалітычных і іншых карысных для яе мэтах. А, па-трэцяе, сама мэта інтэграцыі не раскрыта. Таму неабходнасць такой "агульнасці" становіцца проста спрэчнай. Бо цэны на энерганосьбіты і галоўную сыравіну ў Расіі не могуць у хуткім часе не стаць сусветнымі. Тады ніхто з Расіі нішто таннае не дасць. Да таго ж, ад урада Расіі (калі б ён быў нават самым выдатным і любіў Беларусь, як сваю Маці-Радзіму) ва ўмовах рыначных зносін мала што залежыць, гандаль ідзе напрамую паміж прадпрыемствамі пры забітасці расійскіх складаў сваімі і замежнымі трактарамі, аўтамабілямі, шынамі і іншымі вырабамі. Апрoч таго, сама пазіцыя нашага прэзідэнта ў пытаннях "інтэграцыі" з Расіяй супярэчлівая, неакрэсленая. Так, у тэзісах яго перадвыбарнай праграмы было запісана: "Восстановление на равноправной и взаимовыгодной основе бездарно уничтоженных связей с государствами, ранее входившими в СССР, прежде всего с Россией и Украиной". У інтэрв'ю "Комсомольской правде" (10.11.1994 г.) пад загалоўкам "Я крепко стою на ногах" чытаем крыху іншае: "На выборах я обещал три вещи: бороться с инфляцией, коррупцией, союз с Россией и другими республиками". Пры сустрэчы ж з Ельцыным у Мінску Лукашэнка "по поводу интеграции сказал буквально следующее: Борис Николаевич поскромничал, я его понимаю. Я же хочу заявить, что обещал народу на выборах полную интеграцию с Россией и слово свое сдержу" ("Народная газета" ад 24.02.1995). І тут жа Аляксандр Рыгоравіч назваў адно з буйнейшых беларускіх прадпрыемстваў адразу "российско-белорусским". Карацей кажучы, Беларусь павінна самастойна ўваходзіць у агульначалавечую супольнасць на прынцыпах узаемнай павагі, мець адносіны з усімі дзяржавамі і народамі, а не быць буферам паміж Расіяй і НАТА.

Складаныя і больш чым адказныя пытанні, вынесеныя на рэферэндум, патрабавалі не толькі ўзважаных, дакладных фармулёвак, але і дастатковага часу для разгляду ў самых процілеглых варыянтах сродкамі масавай інфармацыі, чаго зусім не было. Таму рэферэндум па сваёй сутнасці толькі адцягнуў увагу народа ад самых неадкладных жыццёвых праблем, і ў рознай форме прывядзе да сур'ёзнага абвастрэння напружанасці ў грамадстве. Пераможным аказаўся беларускі народ.

Тыя, што выказаліся за зберажэнне беларускай мовы, гэта мозг нацыі. Пачнецца разладдзе. Бо мозг і цела аднаго арганізма будуць функцыянаваць не ў адзіным накірунку. І арганізм захварэе цяжкай хваробай.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар**

# ТРЫ ДНІ Ў ПАСТАВАХ...

... І можна дадаць — незабыўныя дні — правялі ўдзельнікі ды госці 8-га фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Ужо чацвёрты год запар праходзіць гэты фэст у старадаўнім беларускім мястэчку, і тут, відаць, будзе сталае "месца прапіскі" свята. Бо менавіта на Пастаўшчыне захаваліся традыцыі выканальніцтва на дыятанічных цымбалах, менавіта знаныя груздаўскія музыкі стварылі тут першы на Беларусі цымбальны аркестр...

З 2 па 4 чэрвеня доўжылася свята на Пастаўшчыне, і тры гэтыя дні знаходзіўся побач з яго арганізатарамі ды ўдзельнікамі карэспандэнт "ЛіМа", які ў бліжэйшых нумарах апублікуе свае фестывальныя нататкі. Пакуль жа — самая кароткая інфармацыя. Рашэннем журы на чале з народным артыстам рэспублікі прафесарам М. Казінцом вызначаны найбольш адметныя музыкі — сярод інструментальных гуртоў, сярод юных выканаўцаў, сярод гасцей з суседніх краін... Лаўрэатамі 1-й прэміі сталі мінскі ансамбль "Шчодрыца" (калектыву ўручаны галоўны прыз — дыятанічныя цымбалы, зробленыя майстрам І. Андронам) ды вядомы пастаўскі калектыў "Паазер'е".

**Н. К.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПАБРАЦІМ З БАЛГАРЫІ

**7 чэрвеня споўнілася 60 гадоў балгарскаму перакладчыку Іжо Сакалову (сапраўднае прозвішча Шопаў Іван Марынаў). У яго перакладах балгарскі чытач змог пазнаёміцца з такімі кнігамі, як "Людзі на балоце" І. Мележа, "Вітражы" Я. Брыля. І. Сакалоў пераўвасобіў па-балгарску і асобныя творы К. Чорнага, М. Багдановіча, Р. Барадуліна...**

## З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ ПЕРАГОРНУЦЬ

**старонкі любімых твораў прыхільнікі таленту лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаслава Адамчыка. Выдавецтва "Мастацкая літаратура" прыступіла да выпуску выбраных твораў знакамітага пісьменніка. Нядаўна пабачыў свет першы з іх. Яго склалі вядомы раман "Чужая бацькаўшчына", аповесць "Падарожжа на Буцафале". Значнае месца займае "малая проза": апавяданні "Раяль з адламаным вечкам", "Пах летняй травы", "Дзень ранняе восені", "Салодкія яблыкі", "Там, на хутары", "Кароль Набожа". А адкрываецца кніга згадкамі "Крэскі з аўтабіяграфіі".**

## ЦІ ТРЭБА НАГАДВАЦЬ...

**наколькі вялікая роля ў выхаванні дзетак належыць калыханкам? Нездарма такой вялікай папулярнасцю карыстаюцца і фальклорныя творы гэтага жанру і тыя, якія напісаны сучаснымі аўтарамі. Лепшыя з іх і прадстаўлены ў кнізе, што так і называецца — "Калыханкі", выпушчанай выдавецтвам "Юнацтва". Зборнік, укладзены У. Ліпскім, мае адпаведна два раздзелы, а па-майстэрску праілюстравала яго мастачка А. Лось.**

## У СЕРЫІ "ПАЭЗІЯ НАРОДАЎ СВЕТУ"

**Адна з найбольш даўніх бібліятэчак выдавецтва "Мастацкая літаратура" папоўнілася чарговай кніжкай. Гэтым разам у ёй выйшаў зборнік вершаў аднаго з самых вядомых сучасных паэтаў Чэхіі Івана Скалы "Вітаю вас, вокны". Каб з'явіўся ён, папрацаваў Хведар Жычка, які пераклаў творы І. Скалы на беларускую мову і напісаў прадмову.**

## "МАСТАЦТВА", N 4

**Дзякуючы рупнасці "Беларускай капэлы" апошнім часам, як вядома, прыадкрываюцца шмат якія забытыя старонкі нацыянальнай культуры. Важна і тое, што пра гэта своечасова расказваецца ў друку. Вось і ў чацвёртым нумары часопіса "Мастацтва" В. Скорабагатаў выступае з артыкулам "Лёс падарыў Гётэ музыку Радзівіла". Н. Бунцэвіч ("Дзе вы, мары рамантызму?) дзеліцца ўражаннямі ад IV фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы". Ю. Чурко ("Свята і лабараторыя харэаграфічнага майстра") прапануе нататкі з віцебскага фестывалю.**

**У раздзеле "Выўленчае мастацтва" — гутарка В. Капёнкінай з В. Песіным "Каб нешта рабіць, мастак павінен быць упэўнены ў сваёй выключнасці", артыкулы Н. Калашнік "Мелодыя тканін", М. Баразны "Барока ў галерэі сучаснага мастацтва", А. Законнікавай "Гульні вясёлага чалавека", М. Пагранoўскага "Славацкія аспекты"...**

**"Народнае мастацтва" прадстаўлена матэрыяламі У. Сысова "Старадарожскае вяселле ў песнях Кацярыны Пінчук" і Г. Багданавай "Чыя ялінка лепшая?", "Тэатр" — "Траянскі конь" — Л. Брандабоўскай, "Нямецкі сезон у Мінску" У. Мальцава, гутаркай Л. Грамыкі з акцёрам тэатра імя Я. Купалы С. Краўчанкам "Калі душа бачыць душу..."**

# У БЕЛАРУСІ АДЧУЎ СЯБЕ... КУРДАМ

Выпадак, можна сказаць, унікальны. Паэт піша на адной, сваёй роднай мове, а выдаецца адразу на дзвюх іншых. Здавалася б, чужых яму і разам з тым аднолькава дарагіх, блізкіх. А менавіта так атрымалася з кнігай паэзіі Ганада Чарказяна "Плач", што пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Вершы, якія склалі яе, пры сваім нараджэнні прамаўляліся па-курдску. На курдскай мове былі занатаваны і на паперу. Прыйшлі ж да чытача ў перакладах на беларускую і рускую мовы. Атрымаліся як бы два самастойныя зборнікі, якія, аб'ядналі між сабой, і складаюць кнігу "Плач". Першы з іх "Цень ад сякеры" — плён супрацоўніцтва Г. Чарказяна з Рыгорам Барадуліным, Алай Канапелькай і Артурам Вольскім. Другі — "Туман безвременья" — з'явіўся дзякуючы таму, што гэтым разам Г. Чарказяну дапамаглі набыць яшчэ адзін голас Валянцін Тарас і Валерый Ліпневіч. А да ўсяго творам папярэднічае пранікнёная прадмова Алега Лойкі "Радзіма паэзіі".

Колькі б гадоў назад, узяўшы ў рукі такую кніжку, смела можна было б гаварыць аб дружбе савецкіх народаў, аб тым, што літаратура, у прыватнасці, паэзія не ведае дзяржаўных межаў. А сёння... Давайце паспрабуем усё ж абысціся без палітыкі, хоць зрабіць гэта не так проста, як падаецца, бо многія вершы Г. Чарказяна проста-такі напоўнены ёю. Дакладней, не сама палітыка прысутнічае ў іх, а бачацца тыя наступствы, што нязменна ідуць услед, калі за справу бяруцца... не палітыкі, а гора-палітыкі, а правільней — палітыканы. Тады бяда напаткоўвае чалавека. Тады слёзы засцілаюць яго вочы. Тады гора прыходзіць да цэлага народа. А курдскаму народу, сынам якога і з'яўляецца Г. Чарказян, столькі выпала выпрабаванняў! Таму і вымушаны былі многія курды шукаць прыстанішча далёка ад роднага дому, таму і чужы бераг станавіўся ім сваім, родным.

Доўгі час спяваліся дыфірамбы, складаліся гімны, а людзі пакутавалі. Няхай не заўсёды фізічна, а маральна. Ды хіба ад маральных пакут не баліць душа? І хіба ўрэшце не яны рыхтаваліся — няхай і паступова, незаўважна, — беды сённяшнія, калі народ ідзе на народ, калі чалавек на сваёй роднай зямлі становіцца чужым, нікому непатрэбным? Не адно ж дзесяцігоддзе панавала свайго роду бесчась ("безвременье").

Панавала, незалежна ад таго, хацелі мы гэта прызнаваць ці не. А цяпер яе ўжо за дэмагагічнымі запэўніваннямі не "схаваць":

**Если нет ни свободы, ни прав никаких
у народа,
Если годы проходят
в плену беспросветности
серой,
Люди мифом живут,
исторической скучной
химерой.
Как всегда в безвременье — на миф
воцаряется мода.**
*(Пер В. Тараса).*

"Грезит прошлым своим и народ Курдистана, // Глыбы горя взвалив на худые согбенные плечи". Вяртаецца ў думках да свайго мінулага і сніць "крепость Дымдым — // Курдистанской свободы твердыня". Як і ўсе народы, хоча лепшай долі, бо мае на яе права. Ды толькі

**Остаются иллюзии —
мифы о добром и мудром,
Справедливом вожде,
О Дымдыме — царице свободы...
Остается отчаянье, —
То же, что в давние годы
За оружие браться велело
отчаянным курдам...**

Пра свой народ прамаўляе Г. Чарказян. Але адначасова ён гаворыць і пра іншыя народы, і пра беларускі таксама. І справа не ў тым, што паэзія, калі яна сапраўдная (а ў дачыненні да пэзіі Г. Чарказяна гэта так), блізкая і зразумелая кожнаму, яна ў нечым як бы наднацыянальная. Справа ў іншым. Наколькі паэту ўдаецца знаходзіць матывы агульначалавечыя, а адшукаўшы іх, раскрываць так, каб пазбаўляцца рытарычнасці, дыдактыкі, якія непазбежна падсцерагаюць ці не кожнага творцу там, дзе ён — хоча таго ці не — вымушаны прамаўляць гучнымі эпітэтамі.

Часам Г. Чарказян і непасрэдна звяртаецца да Беларусі. Як сын яе звяртаецца. З упэўненасцю, што, і як у родным Курдыстане, тут таксама настануць лепшыя часіны: "Верую ў промень надзеі / / на выратаванне... Прывітанне, мая Беларусь, // прывітанне!" Надзіва шчыра гучыць іх гэтае: "мая Беларусь". У вершы так прамоўлена паэтам зусім невыпадкова. Не клянецца Г. Чарказян у любві да нашага народа, ён проста адчувае сябе часцінкай яго: "Даруй, што прыйшла бяда, // а рукі мае кароткія — // не адвяду бяду..." (Пер. А. Канапелькі)

"Цень ад сякеры" (пагадзіцеся, наколькі ўдалая назва і як дакладна перадаў сутнасць яе ў прадмове А. Лойка: "Над светам, над Беларуссю, над дрэвам і галавой вісіць цень сякеры, сякеры страху і адчаю, сякеры здрады і зайздрасці, сякеры Чарнобыля і Курапатаў") — нездарма прадстаўлена ў кнізе ў беларускамоўным варыянце. Акурат вершы, прадстаўленыя тут, найбольш беларускія. Беларускія і курдскія ў аднолькавай ступені:

# ВЯЛІКАЯ БРАМА

У Беларускім літаратурным таварыстве "Белавежа", якое літаратары-беларусы заснавалі ў Польшчы трыццаць сем гадоў таму, Надзея Артымовіч — адна з самых цікавых творчых постацяў. Польская крытыка ставіць паэтку і яе творы ў кантэкст такіх літаратурных з'яў, як Анджэй Бабіньскі, Анджэй Бурса, Рышард Мільшэўскі-Бруно, Эдвард Стахура, Рафал Воячэк, — у кола "poetes maudits", "паэтаў выклятых", ці, як гаворыцца пра іх сёння ў Польшчы, — "каскадзёраў літаратуры". Можа, такое сваяцтва не зусім абгрунтаванае, бо цяжка лічыць Надзею Артымовіч паэткай, якая паўстала супраць абавязковых звычаяў ці ўступае ў канфлікт з маральнасцю, але мае яна ў сабе нешта сугучнае з душой артыстычнага цыгана, а творчасць яе пераконвае, што кожны вялікі твор нарадзіцца можа толькі з той глебы жыцця, якая насычана болем і трываннем. Без сумнення, падтрымлівае Надзея Артымовіч ідэю "чалавека бунтоўнага", якая належыць Альберу Камю, які, падсумоўваючы магутны абсяг сучаснай еўрапейскай думкі, сцвердзіў, што "чалавек ёсць адзіная істота, якая не згаджаецца быць тым, чым яна ёсць" (А. Камю, "Чалавек бунтоўны").

Дэбютавала дваццаць пяць гадоў таму надзвычай спелым і ўзвышаным вершам "Ой, ляцелі гусі". Чвэрцьвечча творчай біяграфіі паэткі пазначылі чарговыя зборнікі вершаў: "У сне, у болю слова", Беласток, 1979; "Роздумы", Беласток, 1981; "Сезон у белых пейзажах", Беласток, 1990; "З неспакойных дарог", Мінск, 1993. Апошнім часам гэты даробак быў узбагачаны кніжкай двух аўтараў "Дзверы", якая з'явілася ў Бібліятэчцы беларускага літаратурнага таварыства "Белавежа", рэдагаванай (ад 1990 года) паэтам Янам Чыквіным. Гэта — выбар вершаў Надзеі Артымовіч разам з інтэрпрэтацыямі Алеся Разанава — празаічным, поўным прыгажосці і глыбіні каментарыем да паасобных тэкстаў Надзеі Артымовіч. "Дзверы" — кніжка незвыклая і смелая, таму што на старонках аднаго выдання сустрэліся дзве творчыя індывідуальнасці. Гэты паэтычны двугалас, аднак, гучыць згодна, узаемна ўзбагачаючыся ў сітуацыі спаткання і дыялогу вакол універсальных вартасцей. Задума і канцэпцыя кніжкі прыгадвае адзін з апошніх твораў Чэслава Мілаша "Выпісы з карысных кніг", які атрымаў прызнанне і зацікаўленасць крытыкі.

"Дзверы" з'явіліся ў дні дваццаціпяцігадовага юбілею творчай працы Надзеі Артымовіч, і ў гэтым кантэксце назва зборy набывае значэнне сімвалічнае. Вобраз дзвярэй як "брамы, варот" паўстае суцэльна закарэненым у сімволіцы міжземнаморскай культуры; зазначае сваю прысутнасць у помніках перамогі, што набываюць кшталт трыумфальных брам, аздобленых рэльефамі, якія ўвасабляюць паасобныя фазы здабытай перамогі. Вершы Надзеі Артымовіч, прадстаўленыя ў томіку "Дзверы" ў храналагічным парадку, з'яўляюцца менавіта такімі рэльефамі, што аздабляюць чарговыя этапы перамогі аўтаркі над паэтычнай матэрыяй. Вершы, што сабраны ў томіку, — арытмічныя, дысгарманічныя, ашчадныя ў словах і поўныя замоўчванняў, вырастаюць з болю і сну, з горычы дасведчання, з нясмелых надзей, знікомых мараў, якія занадта багатыя і недаступныя.

У народнай культуры таксама жыве звычай пастановы брам з зеляніны і кветак у гонар кагосьці, каго хочуць годна і радасна прывітаць. Паэтычныя каментарыі Алеся Разанава, якія ён зрабіў да вершаў Надзеі Артымовіч, можна параўнаць якраз з укветчанай брамай, узведзенай на срэбны юбілей творчасці паэткі.

Тытульныя дзверы набываюць таксама сімвалічнае значэнне ў вершах Надзеі Артымовіч. Выказваюць запрашэнне да пярэйсця праз парог, з'яўляюцца сімвалам мяжы паміж сферай сакральнай і свецкай, паміж святлом і цемрай, штодзённасцю і вечнай Таямніцай. З'яўляюцца пачаткам і канцом, але перад гераіняй вершы Надзеі Артымовіч найчасцей замыкаюцца. Гэта — "апошнія", "жалезныя дзверы", што зачыняюць " дарогу да чалавека". Азначаюць брак надзеі на выратаванне. Гэтыя дзверы зачыняюцца ў нас штодзень, шчыльна ізалююць нас ад навакольнага свету, робячы немагчымым спасціжэнне спраў чалавечых.

"Дзверы" — хвалюючы і ўзрушальны паэтычны аповяд пра адзінотніцтва, пра заблытаную экзістэнцыю, пра бачанне свету як вузла супярэчнасцей. Паэтка ставіць дыягназ чалавеку, які жыве пры канцы веку, паказваючы, што неабходна лячыць яго розум, душу і сэрца. Апелюе да безмоўнай адкрытасці да чалавека, бо ўжо хутка — у крохкасці нашага бытавання — чакае нас "вялікая брама" ў краіне вечнай цішы.

Паэтка кажа — "свет замкнуўся і маўчыць". Выступае з "нясканчоным маналогам", "з небяспечнай хуткасцю" шукае "опіум для хворых душ там, дзе няма сэрцаў", чакае "на небяспечных берагах", ідзе "па слізкіх дарогах", але чалавек — "быццам камень", а "сэрца механічнае". Няма ў гэтых строфах шчасця, ёсць аўра няспраўджання чалавека ў яго чалавечай місіі. Ёсць гераічныя спро-

*Надзея Артымовіч, Алесь Разанаў. "Дзверы: тэкст і кантэкст", Беласток, 1994.*

**І надзеяй жывём да канца,**
**Несуцешаныя ў трывозе,**
**Мы чакаем ад шчасця ганца**
**А ганец**
**Затрымаўся ў дарозе.**

*(Пер. Р. Барадуліна).*

Сапраўдная маці Беларусь для Г. Чарказяна, таму так названы і адзін з яго вершаў, "Другая маці" таксама пераўвасоблены па-беларуску Р. Барадуліным: "Жыццё другое, як нараджэнне, // Мне падарыла Беларусь, // у дні адчаю, у дні сумнення // Быў родным бацькам Броўка Пятрусь". І з якой радасцю прамаўляецца: "Я ў Беларусі адчуў сябе курдам..."?!

Чытаю кнігу Г. Чарказяна, і радуюся майстэрству аўтара, яго ўменню жыць паэзіяй і перадаваць яе дыханне, а яшчэ яго здатнасці знаходзіць паўсюдна вартае ўзвышанага, таго, што нельга не апаэтызоўваць (памятаеце, у Е. Лось: "у кожным імгненні паэзія ёсць"?). Прадчуваю, што тут сёй-той можа, як кажуць, "ухапіцца" за гэтае прызнанне. Паківае галавой і з гэткім папрокам прамовіць: "Даражэнькі, няўжо ты ведаеш курдскую мову?"

Што наконт гэтага сказаць? Ды, бадай, тое, што засведчыў у прадмове А. Лойка: "Мне, праўда, цяжка казаць, якія гэта вершы па выкананні, па гучанні на мове арыгінала. Але калі меркаваць па перакладах, па пабудове страфы і нават па ігнараванні яе, калі можна так сказаць, па працы сэрца і розуму паэта, дык вершы Ганада Чарказяна не могуць не прыцягнуць увагу тых, хто верны шчырасці паэзіі, чакае з ёй сустрэч, любіць яе".

Дарэчы, пры жаданні, каб адчуць, наколькі арыгінал высокай мастакоўскай пробы, можна пайсці і іншым шляхам. Вазьміце любы зборнік, перакладзены з якой-небудзь мовы на беларускую (ці рускую) вопытнымі перакладчыкамі. Несумненна, адразу адчуецца, дзе ў першаснове была сапраўдная паэзія, а дзе — звычайныя вершы. Бо якім бы майстрам ні з'яўляўся перакладчык, ён усё адно не зможа зрабіць немагчымае. Можна, у лепшым выпадку, адзін верш "падправіць", два, але, каб усю кнігу? Прытым, калі яна перакладаецца некалькімі аўтарамі...

Публіцыстычная падсветка ў паэзіі Г. Чарказяна відочная, але адначасова ён і тонкі, задушэўны лірык, які ведае цану слову, умела ўвасабляе пачуццё, перадае розныя перажыванні. Ведае і разумее, як удала знойдзены вобраз, здатны паўплываць на чалавека, а сама інтанацыя можа змяніць яго настрой, узняўшы яго ці, наадварот, надаўшы яму засяроджанасць, элегічнасць, самотлівасць...

Паколькі памеры рэцэнзіі абмежаваны, спашлюся толькі на два прыклады, узяўшы рускамоўны і беларускамоўны варыянты. Колькі пісалася пра звычайны рамонак? Але ўзяўся за пяро Г. Чарказян, і адчуванне такое, што ніхто да яго нічога падобнага не рабіў:

**Ромашки —**
**солистки лесного балета —**
**вышли на сцену нарядного лета,**
**на светлой поляне у чистой криницы**
**стали в кружок, распахнули ресницы,**
**на тоненьких ножках**
**на стежках-дорожках**
**танцуют в зеленых своих босоножках.**

*(Пер. В. Тараса).*

А ўзяць гэты невялікі верш? Зноў жа — проста, звычайна. Але гэта прастата і звычайнасць ПАЭЗІІ:

**Гэты вечар марозны —**
**мой госць,**
**нечаканы і позні.**
**І ступае за ім**
**сум, пяшчотны і белы...**
**Нам утульна, траім,**
**пры агні дагарэлым.**
**Памаўчым,**
**пасядзім давідна**
**ды прыгубім па кроплі віна...**

*(Пер. А. Канапелькі).*

"Плач" назваў сваю чарговую кнігу Г. Чарказян (дагэтуль у перакладзе на рускую мову ў Мінску ў яго выйшлі зборнікі паэзіі "Прочность", "Цвет доброты", "Пространство и время"). Тым самым адштурхнуўся ў нечым і ад фальклору, бо менавіта гэтае пачуццё (і дзеянне!) надзіва шматграннае ў ім у сваім праяўленні. Плач — сведчанне гора, безвыходнасці становішча... Плач — развітванне з тым, чаму вяртання няма... Але плач — гэта і слёзы радасці... І слёзы надзеі таксама...

Пра ўсё гэта — вершы Г. Чарказяна.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

бы, бясплёныя памкненні, страта найлепшых каштоўнасцей, ёсць хворыя, разбураныя дамы і паэтка, якая сніць свае сны пра сэнс, у якім адмаўляе ёй ява, пра надзею па-над усялякай надзеяй.

Сімвалам чалавека канца веку паўстае ў паэзіі Надзеі Артымовіч стомлены пілігрым, што нястомна вандруе, змораны і не знаходзячы ні ў чым апошняга апірышча: "Квадратнае неба над мною", — кажа гераіня гэтых вершаў, імкнучыся ахапіць веліч прасторы, у якой разгортваецца лёс чалавека. Гэтае маўклівае, прыгожае неба вынікае з традыцыі Паскаля, паказваючы чалавеку яго вымярэнне — экзістэнцыяльную канцовасць. Перажыванне страху перад бясконцай прасторай космасу ўзмацняюць зоркі, воблакі, неба, якія паўстаюць сведкамі чалавечага лёсу і якія заўсёды з'яўляюцца ў паэзіі Надзеі Артымовіч у атмасферы метафізічнага страху. Тварам у твар са знакамі бясконцасці гераіня вершаў перажывае жахлівасць і адначасова дасягае найвышэйшай, ажно балеснай інтэнсіўнасці жыцця. Але ўнутранае спусташэнне, скажэнне маральнае, згасанне пачуццяў робіць яе няздольнай ні да перажывання прыгожай прыроды, ні да прыгожай любові. Спрабуе, аднак, нястомна даследаваць таямніцу жыцця, шукае ў творы выразу для невымоўнага, імкнецца да пазнання і зразумення, не дасягаючы іх канчаткова, але знаходзячы сэнс ва ўпартым імкненні і вечным шуканні. Вяртаецца да месца, якое знаходзіць.

Прастора і месца — асноўныя складнікі нашага свету. Прастора дае чалавеку пачуццё свабоды, адкрывае перад ім перспектыву, заахвочваючы да дзеяння. Месца забяспечвае бяспеку. Прастора замкнёная і ачалавечаная робіцца месцам — непарушным цэнтрам усталяваных, засвоеных каштоўнасцей. Месцаў нельга пакінуць — яны застаюцца. "Месцы застаюцца і ідуць разам з намі", — кажа паэтка. "Месца з'яўляецца пастаянным, — піша амерыканскі географ Ві-Фу Цюян, — таму дае чалавеку, які сам пачуваецца слабым і асуджаны на перамены і змены лёсу, — пачуццё ўпэўненасці". Месца паўстае скарбонкай успамінаў, крыніцай унутранай сілы, адкуль гераіня вершаў Надзеі Артымовіч чэрпае натхненне для штодзённасці. Гэтае месца — Бельск, які паўстае поруч з такімі атрыбутамі, як ікона, малітва, музыка, і таму ўспрымаецца ў катэгорыях святасці. Канцэпцыя месца надае роднаму гораду найвышэйшую вартасць. Нельга яго пакінуць, бо калі б яго не стала, гераіня страціла б пачуццё ўсялякага сэнсу і кропку сталага апірышча. Менавіта з Бельскам звязана надзея, перададзеная ў паэтычных строфах Артымовіч сімвалічнымі вобразамі: усходамі сонца альбо матывам зялёнага каня каля вадапою, што з'яўляецца ўвасабленнем вытоку, сіл прыродных і памкненняў душы чалавечай. Гэта надзея на дабро, зычлівасць, любоў, на добрыя думкі, але найперш — на тое, што адчыняцца ў нас "дзверы", што мы пераступім парог цемры і "будзем кідаць хлеб свой на воды плывучыя", не засмучаючыся тым, што ён адплывае ў нязнанае і гіне.

"Дзверы" прадстаўляюць творчасць Надзеі Артымовіч у яе найлепшых дасягненнях і ў арыгінальным выглядзе, што надае гэтай кніжцы каментарый Алеся Разанава, які з'яўляецца версіяй прачытання нялёгкай для ўспрымання паэзіі. Гэта не адзіна магчымая інтэрпрэтацыя творчасці паэткі, а, хутчэй, форма запрашэння больш шырокага кола чытачоў да распачатку дыскусіі над праблемамі чалавечага існавання, сутнасцю прыроды чалавека і яго прызначэннем — тэмамі, увесь час прысутнымі ў паэзіі Надзеі Артымовіч.

Увагі таксама заслугоўвае мастацкае афармленне кніжкі. Адцянёная вокладка ад цьмянасці да яснасці пераклікаецца з назвай зборніка і зместам вершаў, прыпадабняючыся да адкрыцця дзвярэй — у нас, каля нас і ў вечнасць.

**Тэрэза ЗАНЕЎСКА**
**(Пераклад з польскай)**

---

Масей СЯДНЁЎ

# ПЕРАД ПАТРЭБАЙ ПАВАРОТУ

## ДА ПЫТАННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Першапачатную, самабытную паэзію (Urpoesie) нямецкі пісьменнік Гердэр назваў "матчынай мовай чалавецтва". Паслядоўнік Русо, Гердэр заклікаў да пераадолення разрыву паміж прыродай і культурай. Запярэчваючы Асветніцтва, Гердэр бачыў сэнс у павароце да першакрыніцы — народнага быту, рэлігіі, мовы, гісторыі. Зразумелае таму ягонае зацікаўленне фальклорам самых розных народаў. Ён нават творчасць Асіана залічаў (памылкова) да народнай творчасці. Шэкспіра Гердэр называў "паэтам першабытнай прыроды", цвердзіў, што ягоны магутны талент вырастаў менавіта з глыбіняў народнага быту, што, аднак, яму не шкодзіла быць пісьменнікам сваёй эпохі. Да паэзіі ранніх часоў (Urpoesie) Гердэр залічаў псалмы са Старога запавету, творчасць Гамера, Гесіода, Піндара. А якое значэнне ён надаваў мове, відаць з ягонага выразу, што "моўны геній" — гэта адначасна і геній нацыянальнай літаратуры". Нацыянальнай літаратурай, казаў ён, можна лічыць толькі тую, што ўзнікла з першаасноў той ці іншай нацыі — з мовы, быту, рэлігіі, звычаяў, легендаў, паданняў, з той самай (Urpoesie), якую Гердэр і назваў матчынай мовай.

У святле гэтага хацелася б паставіць пытанне, у якой ступені беларуская літаратура з'яўляецца нацыянальнай літаратурай, калі з'яўляецца такой наогул? Ці вырастала яна з народнага быту, з Urpoesie: фальклору, паданняў, легенд, ці яна вынік нечага іншага — палітычных абставінаў, нейкай кан'юнктуры?

Ведаю, не лёгка адказаць на гэтыя пытанні.

Пачну з таго, што беларускую літаратуру я назваў бы літаратурай на беларускай мове. Нацыянальная яна толькі ўмоўна, паколькі яна на беларускай мове. І гэта ўжо, канешне, адзін з прызнакаў нацыянальнай літаратуры, але не больш. У ходзе ажыццяўлення палітыкі збліжэння і зліцця нацый яна, безумоўна, страціла б і гэты свой прызнак. Беларуская літаратура часоў сацрэалізму кіравалася літаратурнай палітыкай КПСС, гэтая палітыка ўвесь час мянялася, у залежнасці ад ідэалагічных установак партыі, літаратура была адным з важных сродкаў у ажыццяўленні гэтых установак, яна не была самастойнай, была, так бы мовіць, надбудоўкай над базісам, літаратурным прадуктам метаду сацыялістычнага рэалізму. Карацей — беларуская літаратура была беларускай савецкай літаратурай, і ўсё, што не ўкладвалася ў гэтае паняцце, сурова праследавалася. Тут няма месца называць такія творы і іхніх аўтараў — іх доля цяпер добра вядомая.

Якія ж яшчэ, апрача мовы, нацыянальныя прызнакі мае беларуская савецкая літаратура? Апрача моўных прызнакаў, творы беларускай савецкай літаратуры маюць у сабе звычайна і такія нацыянальныя прызнакі, як беларуская прырода, нешта ад характару беларусаў, асяроддзе і інш., але гэтыя прызнакі часта служаць нейкім элементам упрыгожання твора, нечым вонкавым, не арганічным. І цікава, чым больш таленавіты пісьменнік, тым больш у яго нацыянальных прызнакаў. (Мы не закранаем тут пачатковую творчасць нашых класікаў, творчасць беларускіх пісьменнікаў дакастрычніцкай пары). Маем на ўвазе пісьменнікаў і паэтаў савецкай пары, што тварылі паводле метаду сацыялістычнага рэалізму. У найбольш таленавітых з іх вы знойдзеце значна больш, так бы мовіць, беларускага субстрату. І адмаўляць гэтыя нацыянальныя прызнакі ў беларурскай савецкай літаратуры было б неразумна і шкодна. У сацыялістычным варыянце беларускай літаратуры ёсць нямала выдатных твораў і ў іх ёсць прыкметныя праявы нацыянальнага. Але агулам беручы, савецкае выключае нацыянальнае, асабліва буржуазна нацыянальнае. Савецкае не мірыцца з нацыянальным. Адсюль тое змаганне, якое разыгрывалася на пакутным полі беларускай літаратуры, змаганне, што канчалася трагічнымі вынікамі для нашай літаратуры.

Перабудавацца нашай літаратуры будзе нялёгка. Механічны пераход яе ў нацыянальную літаратуру немагчымы і яго не можа быць. Гэта доўгі і балючы працэс і ён завершыцца сам па сабе, калі будуць спрыяльныя ўмовы для гэтага працэсу. Кажу спрыяльныя ўмовы, бо ж для нашай літаратуры ўсё яшчэ існуе моўная пагроза, гэты нацыянальны прызнак нашай літаратуры ўсё яшчэ не мае ахоўных сродкаў у самастойнай дзяржаве — у Рэспубліцы Беларусь. Але гэта не мусіць схіляць нас да песімізму. Літаратура, як жывы арганізм, мусіць мець здольнасць самаабароны.

Беларуская літаратура стаіць цяпер перад патрэбай павароту да вытокаў, з якіх яна пачалася, але ад якіх яна пазней была адарвана, павароту да свайго спрадвечнага, да сваёй Urpoesie — багатай вуснай творчасці. У ёй жа выказана быццё нашага народа, як выказана быццё іншых народаў у творчасці Гамера, Гесіода, Асіана. Наша Urpoesie, калі хочаце, гэта наш Стары і Новы запавет, наша Біблія, наша рэлігія, і мы мусім імкнуцца да спасціжэння гэтых запаветаў, шукаць дарогі, таго "забытага шляху", пра які гаварыў Максім Багдановіч.

Гэта, вядома, не значыць, што беларуская літаратура мусіць апынуцца па-за часам, заплюшчыць вочы на сучаснасць, адгарадзіць сябе ад свету, ад здабыткаў чужых культур, у тым ліку блізкіх нам. Абсалютна не! Мы гаворым тут пра нацыянальны базіс беларускай літаратуры, пра яе падложжа, з якога, як і ў выпадку з Шэкспірам, вырастае нацыянальная літаратура, нібы прарастае з мінулага ў сучаснае, узбагачаная сваёй спадчынай, яна спасцігае сучаснае, сённяшняе, узнімаецца на вышэйшую ступень, удасканальваецца.

Паводле Гердэра, мова, як і літаратура, у сваім развіцці праходзіць чатыры этапы — маленства, юнацтва, даросласць, сталасць ці старасць. Наша літаратура, дзякаваць Богу, прайшла ўжо тры этапы і стаіць перад чацвёртым — перад сталасцю. Старасць ёй яшчэ не пагражае, калі, на думку Гердэра, пануе ўжо філасофія і адцягненае мысленне. Наша літаратура маладая, у яе ёсць яшчэ нявыкарыстаная вялікая патэнцыя, жывучая духоўная крыніца — наша Urpoesie. У сваім сталым перыядзе яна, упэўнены, скажа сваё слова, якога яна яшчэ на сказала. Слова, кажуць, было напачатку. Для літаратуры яно застаецца заўсёды словам, дзейснай сілай, той матчынай мовай, праз якую беларуская літаратура можа сказаць нешта сваё і ўсяму чалавецтву.

**Глен-Коў, ЗША**

---

# І ПАЭТ, І ПЕРАКЛАДЧЫК

А менавіта ў такой ролі выступае адначасова Тадэвуш Хрусцялеўскі. Нарадзіўся ён 3 чэрвеня 1920 года ў Мінску-Мазавецкім, з'яўляецца адным з найбольш актыўных прапагандыстаў беларускай літаратуры ў Польшчы. У 1982 годзе ў Т. Хрусцялеўскага выйшла кніга лірычных рэпартажаў, эсэ "Старасвецкае падарожжа", у якой расказваецца пра польска-беларускія, польска-рускія, польска-ўкраінскія і польска-літоўскія літаратурныя ўзаемасувязі і кантакты.

Беларусі, нашаму народу Т. Хрусцялеўскі прысвяціў некаторыя свае вершы. Ён з'яўляецца аўтарам артыкулаў "Янка Купала і яго гуслі", "Пра Якуба Коласа", "Прызнанне перакладчыка" і іншых. Склаў зборнікі Я. Купалы "А хто там ідзе?", Я. Коласа "Так спявае любімая дудка", Р. Барадуліна "Свята пчалы" і напісаў да іх прадмовы. Да ўсяго — пераклаў і некаторыя творы згаданых аўтараў.

Дзякуючы Т. Хрусцялеўскаму па-польску загаварылі Я. Чачот, Ц. Гартны, М. Багдановіч, П. Глебка, М. Танк, П. Панчанка...

Добра вядомы Т. Хрусцялеўскі і на Беларусі. Прынамсі, яго творы прадстаўлены ў кнізе "Горад мільённы і мы". Паэзія чырвонай Лодзі" (1972), у аўтарскім зборніку "На слядах майго дома" (1977). Абедзве кнігі складзены Я. Брылём. Т. Хрусцялеўскага на беларускую мову перакладалі М. Танк, А. Лойка, П. Макаль, Н. Мацяш, Р.Семашкевіч і іншыя.

Юры СТАНКЕВІЧ

# ГУЛЬНЯ БРОНЗАВАК У СВЯТЛЕ ПОЎНІ



АПАВЯДАННЕ

побач з ляском. Грошай, па сто даляраў з кожнага, якія запатрабавалі чацвёра плячыстых, маладых, коратка стрыжаных і на адзін твар рэкеціраў — яны не маглі сабраць. Можа, у таго-сяго і былі, але аддаваць ніхто не хацеў. Тады, каб застрашыць іншых, яе пазверску згвалцілі на вачах ва ўсіх. Чаму менавіта яе (у аўтобусе былі і значна маладзейшыя) — ніхто не зразумеў. Мо таму, што сядзела ля самых дзвярэй? Некалькі жанчын казалі, самлелі, гледзячы, але ніводны тады не абараніў яе, а ў тым аўтобусе ехалі і мужчыны. Не, ніводны. Яна не памятала ўжо, як дабіралася дамоў. Грошы ўсё роўна адабралі, вокны, акрамя вадзіцельскай кабіны, наўмысна выбілі, бо тым мяшанцам, здаецца, было мала здзеку. Па ўзросце — яе дзеці, а ўжо і не людзі.

Дома паміраў сын. У адчаі яна кінулася на Камароўку. Стала ля ўваходу, у руках трымала пустую скрыню з-пад абутку — жабравала. На аркушы паперы, які прышпіліла да паліто, напісала праўду — што просіць міласціню на лекі. Да вечара скрыня была поўная, але падышоў нейкі быццам і невялічкі, скуласты, з пустымі вачыма і ротам, як у жабы, і запатрабаваў за месца даляры. Даляраў у яе не было.

Праз некалькі хвілін два падлеткі-цыганы, прабягаючы, вырвалі ў яе з рук скрыню і зніклі ў натоўпе. Яна не закрычала, не кінулася ўслед, бо ўжо зразумела, што ўсё марна...

— Дык вось, — працягваў між тым урач, — вы крочыце праз поплаў, свеціць поўня, спяваюць цвыркуны. Вы адчуваеце спакой. Удалечыні вы ўжо бачыце, як бліснула палоска вады — гэта чыстае цёплае возера, дзе вы хочаце выкупацца. Вы пациху ідзяце ля кустоў...

— Пачакайце, — раптам сказала жанчына. — Я хачу крыху адпачыць, спыніцца. Ля куста, ну хаця б таму, што ён не зусім звычайны. Там жа і лаўка ёсць побач, праўда?

— Добра, — амаль не здзівіўся ўрач. — Вы спыняецеся ля таго куста, э-э-э...

— Глогу, — падказала жанчына.

— Цудоўна, — цярпліва згадзіўся ўрач. — Вы затрымаліся ля куста, бо вас нешта прывабіла, зацікавіла, вы бачыце...

— Бронзавак. Іх шмат: магчыма некалькі тысяч. Увесь куст нібы пакрыты залатым вэлюмам... Вы калі-небудзь бачылі такое?

— Ну і што гэта за бронзаўкі? — не стрымаў і паказаў недасведчанасць малады псіхатэрапеўт. Ён раптам схамянуўся, што яго гутарка ператвараецца ў суцэльны дыялог і дадаў: — Заплюшчыце вочы, не варушыцеся, не думайце ні аб чым. Памятайце, што вам спакойна і лёгка.

— Бронзаўкі — гэта жукі, — адказала жанчына па прозвішчы Ганна Янукова. Яны падобныя на хрушчоў. Іх лічаць таямнічымі істотамі. Калі-нікалі яны збіраюцца разам на адзін куст і гуляюць у святле поўні. Ніхто не ведае чаму. Рэдкае відовішча, але я аднойчы бачыла...

— Так, так, — ніколькі не здзіўляючыся, нават задаволена і ахвотна згадзіўся ўрач. — Вы назіраеце за жукамі, і як яны гарэзуюць вакол куста ў святле поўні, а потым ціха ідзяце далей, вам жа хочацца выкупацца. Лета на зыходзе, але вечар цёплы, і вада ў возеры таксама цёплая, дзе-нідзе часам боўтае рыба...

"Не, — падумала між тым жанчына, — я далей не пайду. Мне зусім не хочацца да таго возера, дзе ў цёплай вадзе боўтае рыба. Я лепш застануся на лаўцы, ля таго куста глогу і буду назіраць, як жукі гуляюць у святле поўні. Але чаму я хачу застацца? І праўда — чаму?"

Яна перастала цікавацца тварам урача, які паступова, натхняючыся, варушыў губамі — расказваў пра возера, і заплюшчыла вочы.

...Тады яна вучылася ў школе, здаецца, у шостым класе. І закахалася ўпершыню таксама ў школе — наіўным дзіцячым каханнем. Хлопчыка звалі Даніла, цяпер яна добра ўсё ўспомніла. Да таго Данілы ў яе была схільнасць і яшчэ па адной прычыне: яго бацька і яе, як па сакрэце расказала аднойчы маці, напрыканцы вайны ўступілі ў Беларускую краёвую абарону. Данілавага бацьку забілі праз тры гады пасля заканчэння вайны — разам з такімі як сам "бульбашамі" ён хаваўся ў лясах: акружылі на хутары, ён адстрэльваўся да апошняга і згарэў разам з хатай. Апазнаванне такім чынам нічога не высвятляла і яго проста выкрэслілі з памяці: быў такі і не стала. А вось яе бацьку, Пётру Янукова, не забілі, а па запозненым даносе забралі раніцай з дому. Гэта было горш, бо ён усё роўна загінуў у лагеры, але спачатку быў выязны суд, турма, даведаліся суседзі. Яны жылі ў прыгарадзе і ў школе, куды яна праз некалькі гадоў пайшла восенню, упершыню пачула абразлівае: "паліцайка!". Гэта слова выкрыквалі ёй у твар на перапынках, пасля заняткаў і па дарозе дамоў. Яна вярталася ў слязах, а часам і з сінякамі — здаралася пераймалі і на зваротным шляху білі. Давялося змяніць школу. Там і вучыўся Даніла. Хлопчык паводзіў сябе ціха, непрыкметна. Але яна нават тады разумела, што чарга дойдзе і да яго, гэта ж справа часу, няйнакш, бо ўжо на ўроку батанікі настаўніца, жонка вайскоўца, што прыехала аднекуль з Расіі, раптам спыняла аповяд пра чарвякоў і пачынала істэрычна крычаць пра здраднікаў і ворагаў народа, і як яна і разам з ёй усе людзі іх ненавідзяць.

Маленькая Ганка Янукова тады нібы дранцвела і бачыла, як уціскалася ў плечы Данілава белавалосая галава, а ў вачах хлопчыка з'яўляўся жах.

Неяк, калі хадзіла па малако (тады яшчэ ў горадзе дзе-нідзе трымалі кароў) яна і ўбачыла аблеплены жукамі куст. Вечарам яны пайшлі туды разам з Данілам — яму аднаму яна вырашыла паказаць незвычайную з'яву. Жукі яшчэ не паразляталіся, іх было столькі, што куст зіхацеў, як калядная ёлка. Там яна ўпершыню і пацалавалася з хлопчыкам, якога звалі Даніла.

А праз тыдзень усё паўтарылася зноў. Калі яна села за парту, то дзяўчынка, што сядзела з ёй раней, раптам дэманстратыўна перасела на іншае месца. На здзіўленае пытанне настаўніцы дзяўчынка адказала, што не хоча сядзець побач з "паліцайкай".

Настаўніца роблена абурылася, але ўсе па чарзе адмовіліся сесці з ёй побач. Даніла адмаўчаўся.

Яна неяк давучылася ў класе да канца года, потым зноў памяняла школу, і больш ужо хлопчыка не бачыла. Дый навошта ёй было яго бачыць...

— ...Дык вось, урэшце вы ля возера, — пачула яна бадзёры голас урача, — вам цёпла, нават горача, вы хочаце паплаваць. Вы асцярожна кранаеце нагой ваду, яна таксама цёплая, нагрэлася за дзень, над ёй падымаецца пара. Дно светлае, пясчанае. Вы распранаецеся і ўваходзіце ў ваду. Плывяце.

"...Не, — падумала між тым жанчына, — нікуды я не хадзіла, ні да якога возера, і не пайду. Мне добра і ля таго куста глогу. Можа, гэта ўвогуле адзінае месца ў свеце, дзе я аднойчы адчула сябе шчаслівай. Ды колькі таго шчасця было ў жыцці? — раптам нагадала яна. — Ну, некалькі месяцаў пасля вяселля, потым месяц, два, як нарадзіўся сын, потым — калі ён паступіў у інстытут, яна так радавалася, што ён будзе адукаваным і, можа, не прападзе ў той калатнечы, што распачалася навокал. І... і ўсё: за ўсё жыццё — якіх паўгода, не, нават не шчасця, а проста таго адноснага душэўнага спакою, пра які так апантана гаворыць зараз гэты малады ўрач. Завод, праца на канвееры. Паехаў на заробкі ды так і не вярнуўся назад муж. Больш нічога і не было. Вось і пражыта жыццё, якое, можа, і даецца адзін раз..."

— Вы не спіце? — спытаў між тым урач. — Заплюшчыце вочы. Як вы сябе адчуваеце? Не мулка? Тады ўявіце сабе, што вы добра наплаваліся ў вадзе і выходзіце на бераг. Пад нагамі — трава. Вы расціраеце сябе ручніком, вам горача, прыемна. Урэшце вы кладзяце ручнік на зямлю, побач з вопраткай, у якой вы сюды прыйшлі. Вы апранаецеся ў новае, чыстае і свежае адзенне. Новая сукенка прыемна аблягае ваша цела. Усё старое разам са сваёй хваробай вы пакідаеце на беразе. Чуеце? Разам з хваробай. Вы крочыце далей басанож: адпачыўшая, бадзёрая, здаровая...

Праз няшчыльна прыжмураныя павекі жанчына ўбачыла, як урач зірнуў на гадзіннік на запясці, а потым на магнітафон на падваконні — пэўна хутка павінен быў скончыцца запіс на касеце — і працягваў гаварыць.

"Зараз ён закончыць сваю, бадай яшчэ ў інстытуце завучаную казань", — падумала жанчына. "Чамусьці ён упарта лічыць яе хворай. Ну якая яна хворая? Але не варта яго нічым узрушваць, насцярожваць, бо ёй трэба толькі адно — хутчэй адсюль выйсці. Яна хоча быць мёртвай, толькі і ўсяго. Выпісацца, прыйсці дадому, зачыніцца і адкрыць газ. Ніякіх клопатаў яна нікому не наробіць. І ўвогуле, нічога благога людзям яна не жадае. Нават тым, якія ехалі з ёй у аўтобусе. Няхай яны жывуць з ГЭТЫМ столькі, колькі ім пакладзена лёсам. Няхай выкручваюцца, гандлююць, крадуць, будуюць катэджы, галадаюць (а ў некаторых кватэрах, яна ведае, ужо дзеці аб'ядаюць шпалеры), падстаўляюць тых жа дзяцей пад бэры ды кюры, плачуцца на вуліцах, у чэргах і ў газетах, як ім дрэнна, выбіраюць сваіх самых лепшых прэзідэнтаў, глядзяць свае любімыя тэлесерыялы, уніжаюцца і запабягаюць перад рознымі прыхаднямі і набрыддзю, ускладаюць кветачкі да іллічоў і дзяржынаў, святкуюць чарговыя вызваленні і перамогі невядома ад каго і над кім, бо толькі апошні ёлуп паверыць, што яны могуць ад некага вызваліцца і кагосьці там перамагчы, прадаюць сваю мову, зямлю і сваю свабоду, маўчаць і церпяць, бо яны ўжо быццам зусім і не людзі, а пакорлівы статак. Няхай жывуць. Толькі без яе. Нехачунехачунехачу. Яна зараз прагне аднаго — зачыніцца ў сваім пакойчыку і пабыць адной, а потым адкруціць газ. На гэты раз яна зробіць усё абдумана, без таропкасці. Толькі дачакаецца, калі яе выпішуць, каб усё было па-людску, бо не хоча падводзіць людзей і гэтага маладога доктара таксама. Выпісацца трэба хутчэй, бо яна амаль не спіць ужо шостыя суткі і доўга так не вытрымае.

...Раптам касета скончылася, наступіла цішыня, і жанчына пачула голас урача.

— Ну вось, — падагуліў той, — мы з вамі зноў прагуляліся. Вы адчуваеце сябе лёгка і ўпэўнена, вам хочацца быць здаровай... Так ці не? Дарэчы, я задаволены вамі. Вы добра адаптуецеся і, спадзяюся, мы вас не будзем тут затрымліваць...

— Так, — сказала жанчына па прозвішчы Ганна Янукова. — Я хачу дадому. Калі вы мяне выпішыце, доктар?

— Магчыма, заўтра, — паабяцаў той.

---

Зноў кашчавай рукой,
Беларусь,
Д'ябал прагне ў душу тваю
ўпіцца.

Ты пра Бога забыла.
Яму —
Стала падчарыцай,
няйначай.
Ты паклон адбівала таму,
Хто слязы тваёй
Сэрцам не бачыў.

Набрыдзь розная —
бы клапы,
Ці ж нямала крыві пасмакталі,
Ці ж нямала сухія пупы
Беларускім дабром
надрывалі?

Развярэджана гневам душа:
Што яшчэ з яе
Высмактаць хочуць?
Не дазволю сябе суцяшаць,
Покуль
ідалы
ў вочы
рагочуць...

●

Колькі журбліва-жаночага
Гонару і самавітасці
У зрэзанай галінцы ружы,
Якая палахліва замірае
У палоне крыштальнае вазы!
І ні ветлівасці, ні святла —
Ад яе зганьбаванай цнатлівасці...
Набаўляецца крыўды і сораму
У здзіўлёных дзявочых вачах,
Хоць на ружы —
Ніводнай слязінкі.

## КРЫЖЫ ПАМЯЦІ

Жыла хлусня ў гарачай згодзе
З чырвоным зарывам сцягоў.
З-пад іх — картавы кат выходзіў
Гнявіць язычніцкіх багоў.

Зямля крывёй захрапацела...
Нацельны крыж — і той знялі!
Жыццё ад гора — звар'яцела...
Жалобы — хмарамі плылі...

Калі ўставала праўда
ўпотай
Ад гулкіх кратаў і мяча —
Яе гнюсілі так, што потым
Свет размярэжваўся ў вачах!

Падступным стаў наш век трывожны.
Зняславіў Ідал — чорны хлус —
І наш, гасцінны і заможны,
Край васільковы — Беларусь.

Якія мы — такая й доля.
Хаўтуры скрозь і крадзяжы...
А дзе ж адвечнае, святое
Святло сялянскае душы?

## ВОСЬ І СУСТРЭЛІСЯ МЫ

Вочы спагадай любові сагрэліся,
Гронку даверу прымі.
Вось і сустрэліся,
Вось і сустрэліся,
Вось і сустрэліся мы.

Колькі настрою ў вясны запазычана
Намі на ўлонні зімы!
Колькі шчаслівых зарніц
Не падлічана
Там, дзе сустрэліся мы.

Полымя страсці зарой разгарэлася,
Шчырасцю свет абдымі!
Вось і сагрэліся,
Сэрцам сагрэліся,
Сэрцам сагрэліся мы.

## СНЯГІ РАССТАННЯ

Вядзе калядніцу завея.
Смех маразоў ў рукаве.
А ты з'явілася, як фея,
У далеч зорную завеш...

Падай руку, і я прачнуся,
У свет паклікаю зямны...
Дзе я? Куды ні азірнуся,
Усюды —
Выдумкі зімы.

Вачэй пралескавы агеньчык
Выявай сноў світае зноў.
Ён ад самоты сэрца лечыць,
І набліжае яву сноў.

Між намі ноч завеі сцеліць.
Ці не за юныя грахі?
Там, дзе сустрэцца мы хацелі, —
Ляжаць глыбокія снягі.

## КАЛЯДНІЦА

А снег такі шчаслівы, золкі!
Вачам паверыць не магу,
Што гэтак выплакалі зоркі
За ноч дзявочую тугу...

У непарушнасці каляднай —
Усё да шчасця,
Да двара.
Купаецца за даляглядам
Цнатлівай паннаю зара.

Жыццём асляплены сцяжыны.
І як тут сэрцам не згадаць,
Што белы снег —
Душа жанчыны,
Якую нельга разгадаць.

●

Мне баліць за цябе,
Беларусь,
Як за маму маю,
нябожчыцу.
Ты хварэеш.
І не ў пару
Пахаваць цябе некаму хочацца...

За жыццё тваё,
за душу
Сам Гасподзь мо нарэшце
Заступіцца?
Супраць волі падчас грашу,
І штось лепшае ў сэрцы губіцца.

Памірае мая Беларусь,
Ад пакутнага болю
Корчыцца.
Хто ўратуе жыцця зару?
Глум і сорам,
Калі ён скончыцца?

ЛіМ
ЧАСАПІС



## АДЫГРАЎ СОЛА АКЦЁР...

**У Гродзенскім абласным драматычным тэатры прайшоў юбілейны вечар заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Аляксандра Марцінюка. "Кветкавы дождж", віншаванні ўсемагчымых арганізацый, выступленні-пажаданні ветэранаў сцэны, акцёрскі "мінікапуснік", вясёлы "цыганскі" танцавальны імправіз студэнтаў вучылішча мастацтваў — чаго толькі не было...**



**Назваць "сольным" юбілейны вечар, вядома, нельга. Амаль усе вядучыя акцёры тэатра — Н. Емяльянаў, Е. Гайдуліс, В. Смірноў, С. Курыленка, А. Шаўкаплясаў, Т. Харламава, Л. Волкава, Е. Красікава, В. Капранаў, галоўны рэжысёр тэатра Г. Мушперт у гэты вечар былі разам, у адзінай партнёрскай "звязцы" з вінbackslash-free віноўнікам урачыстасці.**

**І ўсё ж у цэнтры таго, што адбывалася, быў той, хто адзначаў свой 50-гадовы юбілей. Прычым адзначаў не толькі традыцыйна прымаючы прыемныя слыху і сэрцу прамовы і віншаванні, але і працаваў, праявіў сваё відачынства "на поўную нагу", шчодра дорачы глядзельнай зале гульню, спевы, разважанні-маналогі пра не такі ўжо лёгкі хлеб.**

**Пяцьдзесят гадоў... З іх — дваццаць пяць на драматычнай сцэне. Выпускнік студыі пры купалаўскім тэатры (педагог — народны артыст Савецкага Саюза Леанід Рахленка), потым — Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута, Аляксандр Марцінюк пачынаў свой акцёрскі шлях у тэатры юнага гледача. А з 1976 года аддана служыць аднаму тэатру — Гродзенскаму. Шкаляр у "Несцерцы", Адольф Быкоўскі ў "Паўлінцы", Куліці ў набокаўскай "Лаліце", маркіз Фарліпопалі ў "Шынкарцы" К. Гальдоні...**

**Творчы вечар акцёр здолеў напоўніць каскадам фрагментаў са спектакляў мінулых гадоў і цяперашніх, але, думаю, сапраўднай нечаканасцю праграмы стаўся бліскуча выкананы эпізод несыгранай ролі. Гледачы ўбачылі А. Марцінюка ў новай якасці — антыгероя, галоўнага персанажа п'есы В. Набокава "Вынаходніцтва вальса". У ролі таленавітага авантурыста, які марыць "перакуліць" свет пры дапамозе свайго унікальнага вынаходніцтва.**

**Эксцэнтрычныя фарбы, унутраная дынаміка, страснасць, якія прысутнічаюць ва ўсіх работах Марцінюка, узбагаціліся сапраўдным валявым пачаткам, нейкім жорсткім інтэлектуальным прэсінгам у адносінах да іншых персанажаў гісторыі, расказанай Набокавым. Усё гэта "высвеціла" ў акцёры нерэалізаваныя магчымасці, прадэманстравала "буйным планам" яго новую грань.**

**Таму і стала натуральнай і апраўданай агульная задумка вечара. Сцэна з імправізаванай грымавальнай прыбіральняю, гульнявой пляцоўкай сталася своеасаблівым творчым полем, дзе можна было ўбачыць усё: і працэс падрыхтоўкі, уваходжання ў ролю, і сам акцёрскі акт, і момант няспешнага "выхаду" з ролі.**

**Не менш цікава было назіраць за акцёрам, калі загучала перадфінальная песня "Сцэна" ў выкананні М. Савіцкай. Песня, у якой ёсць і ўзрушэнне — захапленне ад далучанасці да вялікага акцёрскага рамяства, і боль — горыч расставання з дзівосным сцэнічным светам, якое калі-небудзь дый надыдзе...**

**Мяркуючы па настроі залы, па глядацкіх водгуках, юбілейная праграма вылілася не ў шараговае "дацкае" вузкатэатральнае мерапрыемства, а сталася сапраўдным яркім відовішчам, якое дае заряд для эмоцый і розуму. Відовішчам, у цэнтры якога — Яго Вялікасць акцёрская праца.**

**Святлана КАРМАЗІНА,**
заг. літаратурнай часткі тэатра

# СЛАЎНЫ СЫН ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

## ДА 150-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ІВАНА ЧЭРСКАГА

Вялікі вучоны-натураліст і падарожнік, выдатны сын зямлі беларускай Іван Дзяменцьевіч Чэрскі нарадзіўся 3(15) мая 1845 г. у родавым маёнтку Сволна Дрысенскага павета (цяпер Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці), у сям'і беларускага шляхціца. Ён атрымаў выдатную адукацыю, дасканала валодаў французскай, нямецкай, англійскай і лацінскай мовамі.

У 1860 г. Іван быў накіраваны ў Вільню для прадаўжэння адукацыі ва Урадавым (дваранскім) інстытуце. Усебаковая адукаванасць юнака ўражвала ўсіх, ён не ведаў сабе роўных у бальных танцах, цудоўна музіцыраваў на фартэпіяна, пісаў пейзажы.

Праз тры гады ён з юнацкім запалам стаў пад сцягі Кастуся Каліноўскага, быў арыштаваны за ўдзел у вызваленчым руху і асуджаны Віцебскім Ваенна-палявым судом на бестэрміновую ссылку ў Сібір з канфіскацыяй маёнтка (бацька памёр у 1855 г.) і пазбаўленнем дваранскага звання.

Рухаючыся этапам да месца ссылкі (г. Омск), І. Чэрскі зблізіўся з адным з паплечнікаў К. Каліноўскага, вядомым геолагам А. Чэканоўскім, які абудзіў у ім цікавасць да праблем "геалагічнай геаграфіі". Гэтая сустрэча стала вырашальнай, яна прадвызначыла далейшы жыццёвы лёс І. Чэрскага. Гады знаходжання ў Омскай ссылцы сталі гадамі настойлівага вывучэння прыродазнаўчых навук, чаму садзейнічалі "творчыя сувязі" з падарожнікам Г. Патаніным, бібліёфілам В. Квяткоўскім і акадэмікам А. Мідэндорфам, якія жылі ў Омску.

У 1869 г. у сувязі з абвастрэннем хваробы сэрца І. Чэрскі быў пераведзены з казармы лінейнага батальёна (дзе ён служыў рэкрутам) на вольнае пасяленне ў г. Омску. Чэрскі адразу ж звярнуўся да пецярбургскіх улад з прашэннем аб пераездзе ў Казань для паступлення ва універсітэт, але яму адмовілі.

З'яўляецца яго першая навуковая праца "Очерк геогностического строения окрестностей г. Омска", якая абвяргала сцвярджэнне знакамітага нямецкага натураліста А. Гумбальдта (1769—1859) аб тым, што ў геалагічным мінулым Паўночны Ледавіты акіян злучаўся з Аральскім, Каспійскім, Чорным і Міжземным марамі. Гэта быў выдатны поспех маладога даследчыка, адзначаны ў сталічных колах. Па хадайніцтве акадэміка А. Мідэндорфа Чэрскага пераводзяць увосень 1871 г. на вольнае пасяленне ў Іркуцк — "сталіцу Сібіры", цэнтр золатапрамысловцаў і ссыльных вучоных — для работы ў Сібірскім аддзеле Расійскага Геаграфічнага таварыства (САРГТ).

Пасля няўдачы з Казанскім універсітэтам ён імкнуўся ў гэты горад, дзе знаходзіўся адзіны (на велізарнай прасторы ад Урала да Ціхага акіяна) ачаг ведаў і асветы, цэнтр навукі і культуры — САРГТ. Асаблівую групу даследчыкаў складалі выгнаннікі 1863 г., і сярод іх — ужо знаёмы яму Л. Чэканоўскі і прафесар Варшаўскага універсітэта В. Дыбоўскі. Чэрскага прымаюць на працу адразу на тры пасады — бібліятэкара, пісара і кансерватара музея; яму даручаюць экспедыцыі на тэрыторыі Іркуцкай губерні з мэтай геолага-геаграфічнага даследавання Усходняга Саяна. Амаль у кожным выпуску "Известий Географического общества" выходзяць арыгінальныя артыкулы І. Чэрскага па матэрыялах даследаванняў горных сістэм Прыбайкалля.

За ара-геаграфічныя даследаванні яго ўзнагароджваюць сярэбраным медалём Імператарскага Геаграфічнага таварыства (1876), а за геалагічныя даследаванні — малым залатым медалём (1878).

У той час адукаваныя аўтарытэты ў галіне прыродазнаўства спрабавалі разгадаць тайну паходжання Байкала — самага глыбокага возера ў свеце. У апошняй чвэрці XIX стагоддзя, відаць, ніводзін геолаг Расіі не быў так падрыхтаваны да даследавання праблем Байкала, як Чэрскі. І ў 1877 г. Геаграфічнае таварыства паставіла перад ім найскладаную задачу — комплекснае вывучэнне ўзбярэжжа Байкала, па ўсім перыметры гэтага унікальнага аб'екта прыроды. За 4 гады, на мяжы грамадзянскага подзвігу, Чэрскі выканаў практычна немагчымую для аднаго чалавека работу па складанні 10-вёрстнай геолага-геамарфалагічнай карты Байкала, якая выкарыстоўвалася на практыцы ажно да 40-х гг. XX ст. і дагэтуль не страціла свайго навуковага значэння. Карта была прадстаўлена на Міжнародным Геаграфічным кангрэсе ў Венецыі, яе аўтар заваяваў сусветную вядомасць.

Вясной 1885 г. Акадэмія навук прапанавала Чэрскаму правесці шырокамаштабнае геолага-геаграфічнае абследаванне Сібірскага тракта ад Іркуцка да Урала. І зноў менавіта яму даручаецца мерапрыемства, грандыёзнае па аб'ёме работ. На гэты раз гэта і справа дзяржаўнай важнасці — па экспедыцыйна-картаграфічных матэрыялах Чэрскага планавалася праектаванне Транссібірскай чыгуначнай магістралі (па ягоных жа матэрыялах ажыццяўлялася і праектаванне Кругабайкальскай чыгункі — унікальнага помніка тэхнічнай думкі Расіі пачатку XX ст.).

Пасля заканчэння гэтай экспедыцыі Чэрскаму належала з'явіцца ў Пецярбург для выканання заданняў Акадэміі навук і Рускага Геаграфічнага таварыства (РГТ). Гэта азначала, што РГТ нарэшце дамаглося канчатковага "даравання" Івану Дзяменцьевічу за "памылкі маладосці" (сам Сямёнаў-Цянь-Шанскі прасіў цара за Чэрскага). Яму вярталіся дваранскія правы. Канец дваццацідвухгадовай ссылкі! Перспектыва ўбачыць Пецярбург прыемна ўшчыміла хворае натруджанае сэрца.

Чэрскі з жонкай Маўрай Паўлаўнай і малалетнім сынам пакідае сталіцу "залатых міражоў" і кідаецца ў звычную экспедыцыйную стыхію. Тут ён ажыццяўляе тры маршруты ўбок ад асноўнага: на Ангары — да Падунскага парога і ў Краснаярску — па Енісеі і па Мінусінскай катлавіне.

Усё гэта, з улікам ранейшых даследаванняў у раёне Байкальскага амфітэатра, дазволіла яму ўпершыню намаляваць стройную палеагеаграфічную карціну Сібіры паміж Ябланавым і Уральскім хрыбтамі (Вялікі Залаты медаль імя Ф. Літке, 1886).

Перадавыя вучоныя Пецярбурга з захапленнем сустрэлі Чэрскага на берагах Нявы. Яму была прапанавана работа ў Заалагічным музеі Акадэміі навук (яго інтарэсы ў галіне палеанталогіі і заалогіі заўсёды спадарожнічалі геалагічным). Адусюль ён атрымлівае прапановы выступіць з дакладам, адрэдагаваць кнігу, напісаць артыкул. "Лепшы знаток Сібіры" — такая рэпутацыя адразу ж замацавалася за Чэрскім у вучоных колах расійскай сталіцы.

Чэрскі пражыў у Санкт-Пецярбурзе пяць гадоў (1886—1891). У гэты перыяд ён па рэкамендацыі прэзідэнта РГТ П. Сямёнава-Цянь-Шанскага поўнасцю "перапісвае" застарэлае шматтомнае "Землеведение Азии" К. Рытэра. Наватарства яго заключалася ў комплексным даследаванні праблем з шырокіх фізіка-геаграфічных пазіцый ва ўсеагульнай сувязі і ўзаемазалежнасці прыродных з'яў. Многія яго працы, і цяпер не страціўшы навуковай каштоўнасці (тэорыя эвалюцыйнага развіцця рэльефа, палеатэктанічная схема Усходняй Сібіры, араграфічная схема Паўночнай Азіі, ідэя ўзаемасувязі кліматалогіі і палеанталогіі ў даследаваннях ледніковага перыяду як дапаўненне да тэорыі П. Крапоткіна, гіпотэза паходжання Байкала з удакладненнямі В. Обручава і інш.), заваявалі няўрымсліваму і адданаму даследчыку рэпутацыю "геалагічнага географа" і падарожніка сусветнага маштабу.



ЭКСПЕДЫЦЫІ І. Д. ЧЭРСКАГА Ў СІБІРЫ




Імя І. Д. Чэрскага на карце (•)
Маршрут, год 1892

Зімой 1891 г. І. Чэрскі па заданні Акадэміі навук выпраўляецца з Пецярбурга ў Калыма-Індыгірскую экспедыцыю па амаль недаследаваным краі Сібіры, які застаўся белай плямай на геаграфічнай карце Расіі. Рашэнне зусім хворага вучонага выправіцца ў шматгадовую экспедыцыю ў суровы паўночны ўсход Сібіры (з жонкай і 12-гадовым сынам) сёння, у век авіялайнераў і надзейнай радыёсувязі, успрымаецца як акт велізарнай грамадзянскай мужнасці. Тут асабліва каштоўнымі аказаліся геаграфічныя меркаванні Чэрскага па горных утварэннях паміж Верхаянскім хрыбтом і р. Калымой. У блытаніне горных ланцугоў, перасечаных яго экспедыцыяй летам 1991 г., яму ўдалося выявіць пануючую заканамернасць. Гэтыя меркаванні, пакладзеныя на карту, былі поўнасцю пацверджаны ў XX ст. больш аснашчанай экспедыцыяй С. Обручава, па прапанове якога гэтая горная краіна, працяглаcцю ў 1500 км, была названа "хрыбтом Чэрскага".

25 чэрвеня 1892 г. стан здароўя Івана Дзяменцьевіча рэзка пагоршыўся і ён памірае на экспедыцыйным барказе ў нізоўях р. Калымы, за 150 км ад канцавога пункта Ніжне-Калымска. Тры дні асірацелыя падарожнікі капалі магілу для начальніка экспедыцыі — у вечнай мерзлаце зямлю даводзілася секчы сякерай. 1 ліпеня М. П. Чэрская хавае 47-гадовага мужа ў заімцы каля вусця Амалона — прытока Калымы. Яна давяла экспедыцыю да Ніжне-Калымска (цяпер п. Чэрскі) і даставіла экспедыцыйныя матэрыялы ў Іркуцк. Вестка пра смерць Чэрскага была перададзена па тэлеграфе ў сталіцу Расіі і адразу ж прыцягнула ўвагу расійскага грамадства.

Заслугі Івана Чэрскага перад Расіяй назаўсёды ўвайшлі ў сусветную скарбніцу геаграфічных адкрыццяў і здзяйсненняў. Яго іменем названы горныя вяршыні, яшчэ адзін хрыбет (у Забайкаллі, 800 км), вулкан ва Усходнім Саяне.

Ля падножжа вулкана Чэрскага б'е крыніца, якая не замярзае і зімой, а пік Чэрскага на Байкальскім хрыбце адлюстроўвае ў водах Свяшчэннага Байкала слаўнае імя яго. Само гэтае імя міжволі ўспрымаецца як сімвал, як дзейства. Менавіта такі настрой нараджаецца кожны раз, калі чуеш раптам гучнае і чароўнае слова "Сібір".

Чэрскі вялікі і як падарожнік, і як вучоны, і як грамадзянін-патрыёт. Яшчэ пры жыцці заслужыў ён сусветную славу, але яна так і не дакранулася да яго — прайшла міма, як лёгкае воблачка над сібірскай тайгой. Чалавек трагічнага лёсу — ён пражыў усё сваё свядомае жыццё ўдалечыні ад радзімы, але заўсёды быў верны роднаму краю.

**Валерый ЯРМОЛЕНКА,**
**горны інжынер,**
**доктар геаграфічных навук**

*З рэпрэсіраваных заходнебеларускіх дзеячаў віленскаму публіцысту і літаратурнаму крытыку Уладзіміру Самойлу пашчасціла. Але толькі ў адным. Яго імя ў савецкай Беларусі не выкрэслівалі з энцыклапедый і акадэмічных выданняў, хоць багатую творчую спадчыну аўтара філасофскага нарыса "Гэткім пераможаш!" да сённяшняга дня сабраць не парупіліся. Так ці інакш, пра Самойлу памяталі. І, здаецца, без перасцярогі спасылаліся іншы раз на яго літаратурна-крытычныя публікацыі. Магчыма, таму, што, у адрозненне ад таго ж Антона Луцкевіча ды іншых заходнебеларускіх культурных дзеячаў і палітыкаў, ён займаўся культурна-асветнымі справамі і менш ангажаваўся ў вялікую палітыку. А можа, бараніла імя Янкі Купалы, для якога Уладак з Казіміраўкі быў не проста колішнім знаёмым. Акалічнасці гэтыя, аднак, ад арышту ў кастрычніку 1939 года Самойлу не ўратавалі. Пасля сумнавядомай віленскай турмы на Лукішках яго нейкі час трымалі ў Беластоку, а потым — у Вілейцы, недалёка ад Маладзечна. Пра тое, дзе і пры якіх абставінах памёр, а хутчэй загінуў, маўчаць і БелСЭ, і ЭЛіМБел. У кароткай казённай адпісцы з Міністэрства замежных спраў, якую праз польскае Консульства атрымаў сын Уладзімір, чытаем: "...сведениями о пребывании в тюрьме и реабилитации на имя Самойло Владимир Иванович архивы, компетентные органы Республики Беларусь не располагают". Няшмат гавораць і скупыя радкі польскага біяграфічнага слоўніка. Гісторык і даследчык заходнебеларускай тэмы пані Аляксандра Бергман з Варшавы мяркуе, што напрыканцы чэрвеня 1941 года ў часе эвакуацыі з Вілейкі палітычных вязняў Уладзіміра Самойлу расстралялі.*

*Іронія лёсу...*

*Пройдзе няшмат часу, і дзеці "ворагаў народа" пойдуць церневым шляхам сваіх бацькоў. Лявон і Юрка Луцкевічы — на Усход, за калючы дрот савецкага ГУЛАГу, Уладзік Самойла — на Захад, за калючы дрот Асвенціма... Але ён застаўся жыць, і менавіта яго ўспаміны мы прапануем зараз вашай увазе.*

**Юрась ГАРБІНСКІ**

Уладзімір САМОЙЛА

# ЁН ЦАНІЎ ГОДНАСЦЬ

УСПАМІНЫ

Ёсць шмат да размовы, калі гаварыць і пісаць пра лёс сям'і Самойлаў. Дзядуля, Іван Самойла, быў дырэктарам рэальнага вучылішча, вядомым культурным дзеячам у дарэвалюцыйным Мінску. Сціпласць бацькі не дазваляла яму жыць у Казіміраўцы, дзядулевым маёнтку пад Мінскам. Ён здымаў кватэру ў месце і мог там нармальна працаваць. Рыхтаваўся тады да выканання ўласнай газеты. Працаваў таксама ў царскай хімічнай лабараторыі, дзе праводзіліся даследаванні з выкарыстаннем золата і плаціны. Бацька скончыў два факультэты — філалогію і хімію. Вучыўся чатыры гады на факультэце медыцыны маскоўскага універсітэта. Аднак яго не закончыў: цяжка пераносіў практычныя заняткі па анатама-паталогіі. Можа таму прысвяціў сябе літаратурнай справе і публіцыстыцы. Апекаваўся беларускім паэтам Янкам Купалам. У карэспандэнцыі да Аляксандра Блока прасіў апекі над Купалам, якога лічыў "вялікім талентам беларускага народа".

У вачах шматлікіх знаёмых і сяброў, і не толькі віленскіх і мінскіх, бацька заўсёды быў чалавекам сціплым. Сведчаннем таму хоць бы і тое, што мы не жылі ў раскошы. Не былі мы галодныя ці непрыбраныя, але нельга сказаць, што ўсяго было нам даволі.

Помню частыя візіты да нас сяброў бацькі. У пэўным часе такім частым госцем быў знаны беларускі дзеяч Браніслаў Тарашкевіч, які быў арыштаваны палякамі, а пазней абменены на Францішка Аляхновіча. Мушу сказаць, што з сынам Аляхновіча я сядзеў па-суседску за вучнёўскаю партай, вучыўся разам у Віленскай тэхнічнай школе. Аднойчы запытаў яго пра бацьку. Ён адказаў, што наогул не мае бацькі. Гэта, здаецца, быў 1939 ці 1940 год. З пэўных прычын ён не хацеў сказаць тады праўды. Калі пачалася польска-нямецкая вайна, "знайшоўся" старэйшы Аляхновіч. Неяк аднойчы зноў запытаў малодшага Аляхновіча і сказаў, што ведаю пра яго бацьку. Ён, перапужаны, тады папрасіў: "Не кажы аб гэтым толькі нікому. Бацька мой павінен хавацца ад саветаў".

Гасцяваў у нашым доме і ксёндз з касцёла Святога Мікалая Адам Станкевіч, добра вядомая постаць сярод беларускіх дзеячаў Вільні. Бацька вельмі любіў сустракацца з гэтым чалавекам. Звычайна, прымаючы гасцей, запрашаў на гарбату. Але падчас візіту ксяндза Станкевіча падымаў з ім келіх чырвонага віна. Асабліва ў святую калядную ноч і на Вялікдзень. Гэта быў адзіны алкагольны напітак, які бацька мог сабе дазволіць выпіць два разы на год. Адведваў бацьку і Радаслаў Астроўскі. Аднак да пэўнага часу, калі іх палітычныя погляды на беларускую справу пачалі разыходзіцца. Памятаю, што паміж бацькам і Астроўскім быў нават "таварыскі суд". Тады такія "таварыскія суды" мелі куды большае значэнне, чым звычайны афіцыйны суд. Дарэчы, Радаслаў Астроўскі быў маім хрышчоным бацькам. А хрышчонаю маці якаясьці Кацярына, сімпатыя бацькі яшчэ з Мінска. Яна выкладала французскую мову. Па просьбе бацькі вучыла мяне. Хадзіў я да яе на лекцыі два разы на тыдзень. Заходзіў да нас і далёкі родзіч Антоні Трэпка, выкладчык віленскай тэхнічнай школы.

Прыяцелем бацькі і частым госцем быў Антон Луцкевіч. Мы таксама адведвалі Луцкевічаў. Тады я пасябраваў з яго сынамі Юрыем і Леанідам, з якімі спаткаўся ў Вільні пазней — у 1987 годзе. Сям'я Луцкевіча мела досыць цяжкое жыццё. У гады вайны абодва сыны Луцкевіча ўваходзілі ў беларускую арганізацыю, якую савецкая ўлада пасля захопу Вільні ў 1944 годзе палічыла за варожую. Калі даведаліся, што іх шукаюць, падаліся ў Польшчу. Але ў ваколіцах Жэшува, на жаль, трапілі ў рукі НКВД. Выслалі іх аж да Чукоткі. Былі там да 1956 года, да так званай хрушчоўскай "адлігі". Іх вяртанне з астрогу было досыць інтрыгуючым. На Чукотцы яны працавалі ў капальні серабра, поруч з капальнямі ўрана. Калі ж іх выпусцілі, аказалася, што не маюць грошай, каб вярнуцца на бацькаўшчыну. З Чукоткі да Вільні, як вядома, не менш дзесяці тысяч кіламетраў. Звярнуліся з просьбай да лагерных уладаў, каб атрымаць працу і зарабіць на дарогу...

На пачатку 30-х гадоў бываў у бацькі заходнебеларускі паэт, імя якога добра не памятаю. Здаецца, ці не Танк. Прыходзіў ён часта, калі мы жылі на вуліцы Боніфратэрскай. Ведаю, што выдаў у тым часе нават томік вершаў. Заходзілі маладыя віленскія журналісты. Адведваў ксёндз Кратовіч з касцёла Святога Духа. Ён, між іншым, мяне хрысціў.

У 1935 годзе было абвешчана, што ў Вільню прыязджае знакаміты Фёдар Шаляпін. Вялікія клопаты з білетамі не перашкодзілі бацьку знайсці магчымасць для нас прысутнічаць на адным з выступленняў спевака. Падчас антракта тата сказаў: "Пойдзем адведаць яго і прывітаемся". У артыстычнай было шмат знаных асоб. Сярод іх — вядомая віленская спявачка і акторка Кульчыцкая. Бацька прадставіўся Шаляпіну, прыпомніў іх колішняе знаёмства з мінскіх часоў. Прывіталіся. Мушу прызнаць, што выраз твару Шаляпіна не выяўляў вялікага задавальнення з тых успамінаў. Малады, невядомы свету, ён тады служыў чаляднікам у майстэрні абутку, што знаходзілася ў падвале дома, дзе бацька здымаў нейкі час пакой.

І ўсё ж сустрэча з даўнім знаёмым была яму прыемнай. Шаляпін неўзабаве па выбуху рэвалюцыі ў 1917 годзе выехаў з Расіі і больш туды не вярнуўся. Хоць, здаецца, неаднойчы быў запрошаны. Беларусы павінны ганарыцца ім: нарадзіўся ў Мінску...

Бацька, калі апынуўся ў Вільні, меў "нансенаўскі" пашпарт. Яго калегі з часоў мінскіх раілі, каб звярнуўся да Уладзіслава Рачкевіча, віленскага ваяводы, і атрымаў польскае грамадзянства. Але ён адказаў, што не збіраецца рабіць у гэтай справе якіх-кольвек захадаў. Можа, таму, што быў асабіста знаёмы з Рачкевічам яшчэ з тых часоў, калі хадзілі разам у адну гімназію. І, напэўна, часта канфліктавалі. Да Рачкевіча пайшлі калегі бацькі. Той адказаў: "Няхай прыйдзе да мяне і папросіць". Бацька не пайшоў. Але праз колькі тыдняў прыйшло паведамленне, і бацьку на падставе адпаведных дакументаў аформілі грамадзянства.

Ён звяртаў асаблівую ўвагу на этыку жыцця і працы, на стасункі з людзьмі. У паўсядзённым жыцці быў занадта сціплы, занадта аскетычны. Заўсёды казаў, што можна быць бедным і босым, але мець свой гонар. Шанаваў кожнага, незалежна ад нацыянальнасці. Чалавек, на яго думку, павінен быць добразычлівым і адказным. Ва ўчынках быў справядлівым. Ведаў сем моў. Усюды меў сяброў. З кожным размаўляў на яго роднай мове. Акрамя беларускай, польскай і рускай, ведаў нямецкую і французскую. Крыху слабей ангельскую. Выкладаў у гімназіі лаціну і грэчаскую мову. Не дзяліў людзей і народы на лепшыя і горшыя. Адносіўся да кожнага з павагай. Цаніў годнасць, а не матэрыяльны дабрабыт і грошы. І бацьку таксама шанавалі.

Здаралася, калі я быў недалеткам, зрабіць якое-кольвек глупства. Адчуваў тады, што бацька перажывае і нервуецца. Быў такі выпадак, калі я аднаму з хлопцаў даў задужа кухталёў. Бацьку тады запрасілі ў школу. Нічога мне па тым візіце не сказаў, толькі цэлы тыдзень са мной не размаўляў. Але гэта маўчанне было



для мяне найбольшым пакараннем.

У 1939 годзе я меў толькі дваццаць гадоў. Быў на другім ці трэцім годзе вучобы ў Віленскай тэхнічнай школе. Не меў пэўных планаў на будучыню. Шмат займаўся спортам. Любіў бег і хакей. А найбольш футбол: уваходзіў нават у футбольную зборную нашай школы. Не думаю, што гэтыя мае захапленні былі марамі бацькі. Зрэшты, выбітных здольнасцей я не меў, але з навукай заўсёды лёгка ладзіў. Бацька навучыў мяне адной рэчы, і хіба найважнейшай — паважаць чалавека. Ён хацеў, каб я быў як мой далёкі продак, вядомы польскі рыцар з-пад Грунвальда Завіша Чорны, гербу Суліма.

Мы часта мянялі жыллё. Жылі на Боніфратэрскай, рог Людвісарскай, а потым — на вуліцы Полацкай. Пасля перанесліся на Зарэчную, дом 20, кватэра 13. Але бацька заўсёды меў пакой для сябе. Стаялі ў ім тры вялікія рэгалы, і зашклёная шафа з кніжкамі. Знаходзіліся там, апроч кніг, рукапісы, нататкі і артыкулы бацькі, бо ён быў журналістам. Працаваў сорак восем гадзін у суткі. А паміж працай сілкаваўся і трохі адпачываў. Мелі мы маленькага сабаку, з якім бацька выходзіў на шпацыр. Пакой бацькі быў для нас святыняй. У час прыбірання мама старалася там захаваць той самы парадак рэчаў.

Калі ідзе размова пра справы літаратурныя, дык бацька займаўся імі ўначы. Пачынаў каля сёмай-восьмай гадзіны ўвечары. Праз "цяжкі" почырк заўсёды пісаў на машынцы. Меў такую машынку, на якой напісаў шмат цікавых артыкулаў для віленскіх газет, французскіх і нямецкіх. Праз свой характар меў шмат сяброў. Падтрымліваў кантакты з людзьмі з цэлага свету. З гэтага і я меў спажытак — шмат цікавых паштовых марак. Нават унікальных. Такіх, да прыкладу, як з Аўстраліі, Галандыі, Індыі, Бразіліі і г. д. Ну і, вядома, сябры мне зайздросцілі.

Мама займалася выключна хатнімі справамі. Вечарамі часта была стомленай. Уставала рана, бо я ішоў да школы. А клалася спаць позна: бацька сядзеў да позняй ночы, і мама гатавала яму гарбату. Вельмі любіла вышываць падушкі і сурвэткі. Памятаю, як неаднойчы хадзіў з ёй у краму па ніткі...

Прыпомніўся мне яшчэ адзін эпізод з жыцця бацькі. Перад самым выбухам вайны прыехаў да нас прыяцель бацькі Цат-Мацкевіч і сказаў: "Еду да Швецыі. Едзь са мной, бо цябе тут арыштуюць". Бацька, аднак, не захацеў пакінуць жонкі і сына. Пра гэты эпізод ведае толькі пані Бергман і дзесьці аб гэтым пісала ўжо. Мушу сказаць, што столькі матэрыялаў пра бацьку, колькі мае пані Аляксандра, я, на жаль, ніколі не меў. Выдала цэлы шэраг матэрыялаў пра Уладзіміра Самойлу як на беларускай, так і на польскай мовах. У тым ліку публікацыі на старонках беластоцкай газеты "Наша Ніва". Пані Бергман доўгі час працавала з заходнебеларускімі матэрыяламі. Аднаго разу дайшлі да яе звесткі пра тое, што ў Польшчы жыве сын Уладзіміра Самойлы. Шукала мяне ў Вроцлаве, Шчэціне, Гданьску і Лодзі. І вось аднаго дня, восем гадоў назад, пераглядала тэлефонную кнігу Варшавы. Шукала кагосьці на літару "С". Тады трапіла на прозвішча "Самойла". Затэлефанавала і спытала: ці ёсць я той Самойла з Вільні і ці мой бацька называўся Уладзімір? Я адказаў: так. Дамовіліся на спатканне і сустрэліся.

Хачу сказаць, што ад часу захопу савецкімі войскамі 17 верасня 1939 года Вільні бацька заняўся музеямі. Спадзяваўся, што культурнае жыццё ў Вільні будзе развівацца. Шмат працаваў, часта праз меру, у шмат якіх культурна-асветных арганізацыях і камітэтах. У тым ліку і ў Беларускім музеі імя Івана Луцкевіча. Пісаў да польскіх перыядычных выданняў, расійскіх і беларускіх. Быў сталым карэспандэнтам расійскай газеты "Утро". Пачатак для бацькі складваўся творча-актыўны. Але потым пачаліся арышты... 8 кастрычніка 1939 года, позна ўвечары, пастукалі і да нас. Бацька, як мне здаецца, чакаў гэтага візіту.

Варта прызнаць, што кожны чалавек перад якімсьці няшчасцем мае нейкае прадчуванне. Дзень гэты для мяне быў асабліва цяжкім і пахмурным. Мама паехала на пахаванне сваёй маці. Бабулю я любіў і добра ведаў, колькі жалю і смутку справіла маме яе смерць. Бацькі не было — працаваў. Вярнуўся надвячоркам, каля пятай-шостай гадзіны. Штосьці друкаваў на машынцы. Я не мог заснуць, кепска сябе адчуваў. У нейкі момант задрамаў. Абудзіў гучны грукат ці хутчэй ламанне ў дзверы. Я ўсхапіўся, але бацька ўжо выходзіў са свайго пакоя. Паспеў толькі сказаць: "Відаць, прыйшлі". Я тады яшчэ не разумеў, што азначала ў вуснах бацькі кароткае слова "прыйшлі". Адчыніў дзверы. Увайшло чатырох ці пяцёх вайскоўцаў. Ва ўсякім выпадку, не менш трох. У той момант зрабілася мне неяк не па сабе. Не ведаў, дзе сябе дзець. Бачыў, як ад пару дзён да розных дамоў пад'язджалі шэрыя грузавікі і забіралі людзей. Гэта быў позні "візіт". Я быў заспаны, таму ўсё, што адбывалася ў кватэры, выдавалася цяжкім сном. Энкавэдзісты запатрабавалі паказаць бацькаў пакой і загадалі выйсці. Аднаго паставілі, каб нас пільнаваў. Астатнія грэбаліся ў рэчах, выцягвалі з шафы кнігі і рукапісы. Пераглядалі і кідалі іх на падлогу. Усё гэта цягнулася надта доўга і для мяне здавалася вечнасцю. Бацька сядзеў каля мяне. Памятаю, як дрыжэлі яго калені. Выйшлі толькі пад ранак. З бацькам. Забралі з сабою шмат друкаванага матэрыялу і рукапісы. Калі выходзілі, спытаў іх, ці вернецца бацька. Адказалі: "Да. Вернётся, вернётся". Што я тады мог ведаць пра НКВД?! Для мяне энкавэдзісты былі толькі людзьмі ў вайсковай форме. Не думаў, што чалавека можна скрыўдзіць і прынізіць, як крымінальнага злачынцу.

Калі энкавэдзісты з арыштаваным бацькам выйшлі, я пачаў парадкаваць раскіданыя па кватэры рэчы. Паглядзеў на гадзіннік. Дзіўная рэч! Пакінулі! А яны ж любілі гадзіннікі. Праз гэта ў Вільні іх звалі "часовых дел мастерами". Відаць, проста не заўважылі, бо гадзіннік быў крыху прыкрыты паперамі. А можа, нельга было забіраць іншых рэчаў, апроч "крамольных"? З кніжак забралі хіба дзве. Толькі тады, калі скончыў прыбіраць, заўважыў на пісьмовым стале фотаздымак асобы ў акулярах. Гэта быў Мілюкоў, блізкі прыяцель бацькі. Мілюкова ведалі як непрымірымага ворага бальшавізму. А гэты фотаздымак увесь час знаходзіўся навідавоку. Відаць, тыя, што рабілі вобыск, былі недасведчанымі, каб звярнуць увагу. Ды ці мог чалавек на фотаздымку стаць прычынай арышту бацькі?!

Я тады не разбіраўся ў палітыцы, затое бацька ў ёй арыентаваўся дасканала. У Польшчы толькі збольшага ведалі пра сталінскі тэрор, хоць у Вільні ўсё часцей гаварылі аб тым, чым займаецца на Усходзе НКВД.

...Час заціpае ў маёй памяці дэталі таго восеньскага дня. Адчуваў — дзеецца штосьці нядобрае, тое, чаго не магла зразумець і прыняць свядомасць маладога чалавека, якім я быў. Тады яшчэ не разумеў, што страціў бацьку. Калі хтосьці ішоў па лесвіцы, думаў, што гэта вяртаецца ён, што гэта ён ідзе...

Наступнага дня з вёскі вярнулася мама. Спытала, дзе бацька. Што я мог сказаць? Зрэшты, яна і без мяне здагадалася. Думаю, бацька вёў з маці размову пра магчымасць свайго арышту. Але пры мне — ніколі. Мы потым з мамай колькі разоў хадзілі да турмы на Лукішкі. Хацелі атрымаць якую-небудзь вестку. На жаль, не атрымалі.

Цяжка было тады. Напачатку не маглі прызвычаіцца да такой змены варункаў. Ды ці мы адны? Але жыццё ішло далей. Я тады яшчэ вучыўся ў Віленскай тэхнічнай школе, мама працавала ў шпіталі. Потым прыйшоў час, калі пачаў працаваць і я. Напачатку пры будаўніцтве дарогі ў Вільні, у гарадскім магістраце. Пасля на будаўніцтве фабрыкі ў Новай Вілейцы. Ужо падчас нямецка-савецкай вайны ў верасні 1941 года перайшоў на чыгунку, і тады матэрыяльнае становішча, варункі нашага жыцця з мамай крыху змяніліся да лепшага.

(Працяг на стар. 15)

# МАСКВА: "ДАГАРЭЛА СВЕЧАЧКА..."

**У трэцяй дэкадзе красавіка ў Маскве ў Тэатры на Пяроўскай гучала румынская, сербская, украінская, французская, арабская, руская, а 22 красавіка — беларуская гаворка: удзельнікам Міжнароднага тэатральнага фестывалю камерных спектакляў, прысвечанага 50-годдзю Перамогі, быў спектакль Гомельскага абласнога драматычнага тэатра па п'есе А. Петрашкевіча "Дагарэла свечачка да палічкі". Прэм'ера гэтага спектакля адбылася 9 ліпеня 1993 г. у Мінску ў дні Сусветнага з'езда беларусаў; пасля гэтага спектакль быў паказаны па рэспубліканскім тэлебачанні.**

**І вось — запрашэнне ў Маскву. Маргарыта Дзявятка (Любка), Уладзіслаў Карака (Лявон) і Людміла Гарбунова (Марфа) распавядалі пра беды і радасці — са сцэны... Адгукнулася не толькі глядзельная зала (гучалі галасы: "Брава!"), але і журы. Дыплом Міжнароднага фестывалю быў уручаны гомельскаму тэатру, а таксама рэжысёру спектакля, мастацкаму кіраўніку тэатра Уладзіміру Караткевічу.**

**Маскоўскі збор тэатральных дзеячаў даваў магчымасць, так бы мовіць, і сябе паказаць, і іншых паглядзець.**

**Былі намечаны планы на развіццё гэтага фестывалю ў "Славянскі вянок" — штогадовыя, рэгулярныя сустрэчы на Украіне, у Беларусі, у Расіі, у Славакіі і г. д.**

Таццяна **КАРАТКЕВІЧ**

# ТЭАТР ЧАКАЕ ГЛЕДАЧОЎ



**У Брэсце пасля некалькіх гадоў рэканструкцыі прыняў гледачоў абласны драматычны тэатр. Гэта прыгожы будынак, дзе цудоўная сучасная глядацкая зала, утульныя холы, выдатнае асвятленне сцэны, зручныя акцёрскія грымёрныя, арыгінальны інтэр'ер.**

**Змяніўся і статус тэатра: з чыста драматычнага ён стаў тэатрам драмы і музыкі. У яго складзе будзе цяпер працаваць і сімфанічны аркестр.**

**На здымку: брэсцкі тэатр пасля рэканструкцыі.**

*Фота Рамана і Эдуарда КАБЯКОЎ, БЕЛІНФАРМ*

# У ГАЛЕРЭІ "АЛЬТЭР ЭГО"



**У мастацкай галерэі "Альтэр Эго" працавала новая экспазіцыя. Яна з'яўляецца лагічным працягам "Белага Арт-фестывалю".**

**Выстава тэматычная і прысвечана біблейскай тэматыцы. Сярод яе ўдзельнікаў аўтары, з творчасцю якіх ужо знаёмы мінчане. Гэта Сяргей Шэмет з работай "Благавешчанне", Яўген Жылін з палотнамі "Тры апосталы" і "Адраджэнне храма". Цікавыя графіка Андрэя Косікава і жывапісныя работы Вольгі Захаравай.**

**Арганічна дапаўнялі настрой выставы духоўныя песні студэнцкага хору "Кантус Ювентэ" інстытута замежных моў.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: знаёмства з новай экспазіцыяй галерэі "Альтэр Эго".*

*Фота аўтара*

# "ЛАСКАВАЯ, ЦІХАЯ, ЯК АНЁЛ..."

Гэтак звалі жонку Ядвігіна Ш. Што мы пра яе ведаем? Ды амаль нічога. А між тым, паводле слоў сучасніцы Ядвігіна Ш. Палуты Бадуновай, гэта была жанчына-гераіня. Гераіня непрыкметная: "Ласкавая, ціхая, як анёл, з чулым сэрцам і развітым розумам".

"Добрым прыкладам, — зазначала П. Бадунова, — можа паслужыць гэтая непрыкметная гераіня для тых жанчын, якія адрываюць сваіх мужоў ад беларускай працы дзеля сваіх асабістых выгод. Не ўспомніць іх народ беларускі добрым словам, а такіх, як жонка Ядвігіна Ш., ніколі не забудзе ўдзячны наш народ". Гэта ўспаміны з 1918 года.

Палута Бадунова сама была вельмі шчырая, апантаная асоба. Яна верыла ў людскую дабрату. Але пра гэта хіба пасля. А зараз яшчэ колькі Палуціных слоў пра жонку Ядвігіна Ш. "Усё сваё жыццё, — згадвала П. Бадунова, — яна паклала на шэрую цяжкую працу, даглядаючы без адзінага папроку свайго вечна занятага беларускай справай хворага мужа, несучы на сваіх кволых плячах і ўсю гаспадарку, і клопаты аб сям'і..."

Палута Бадунова амаль цэлы месяц гасцявала ў Карпілаўцы і на свае вочы штодня бачыла гэты клопат. Вось яшчэ адзін яе кранальны ўспамін: "За некалькі дзён да майго ад'езду пісьменнік быў вельмі хворы. І трэба было бачыць, як яго жонка, гэты анёл-храніцель, не адыходзіла ад яго, па тры разы ўдзень рабіла яна яму ванны, цягаючы з надворку вялікія чыгуны з гарачай вадой. Яе маленькая, худзенькая хвігурка то з'яўлялася ў хаце, то зноў счазала на дварэ..."

Такі вось жывы абразок пра жонку Ядвігіна Ш. На вялікі жаль, ён да гэтай пары мала каму вядомы. Калі я прачытаў яго, расчуліўся: захацелася, каб пра Луцыю Гнатоўскую, спадарожніцу Ядвігіна Ш., даведалася ўся Беларусь. І вядома ж, найперш жонкі нашых пісьменнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва.

...Не памятаю ўжо дзе, раздабыў фотаздымак Луцыі. Паглядзеў на яго — і пераканаўся: і напраўду, ціхая і ласкавая, як анёл; глыбокія, вялікія, даверлівыя вочы. Ва ўсёй паставе шляхетнасць, годнасць.

Затым трапілі на вочы ўспаміны пра Язэпа Лёсіка Іны Рытар. Было там колькі слоў і пра Луцыю Гнатоўскую. Кранальныя, прачулыя словы:

"Гэтая невялікая, немаладая, але ўсё яшчэ прыгожая кабета назаўсёды засталася ў маёй памяці са слязамі на твары і тугою ў вачах. Двох яе малодшых сыноў вывезлі ў лес пад Котлас. Фальварак ля Радашкавічаў забралі. Будучыня для сям'і дачкі не зычыла дабра".

З прачулых слоў, як бачым, дыхнула на нас і трагедыя: раскулачылі, разрабавалі фальварак, а затым і зусім сашлюць са спрадвечнай бацькоўскай зямлі, сашлюць разам з дачкой, унукамі, зяцем — усёю радзінаю пісьменніка-гуманіста, які да аднаго толькі і імкнуўся ўсё сваё свядомае жыццё, каб неяк скрасіць побыт простага люду, зрабіць яго больш прыгожым, гарманічным. І вось за гэта яму такая ўдзячнасць! Ну, але, мусіць, спрадвеку ўжо так вядзецца...

З 1934 года Луцыя жыла разам з дачкой Вандай у Мінску на Шпітальнай вуліцы ў драўляным дамку, купленым зяцем Язэпам




Лёсікам. Зяць, як і муж, быў апантаны беларушчынай. Язэп нібы замяніў Ядвігіна Ш. у сям'і, скрашваў побыт асірацелых Лявіцкіх, трымаў іх у беларускім духу.

Язэпавы дзеці, унукі Луцыі і Ядвігіна Ш., прынамсі, Алеся, пра сваю бабульку згадвае: "Бабулька мая, Луцыя Аляксандраўна, ведала: польскую, французскую, беларускую, рускую мовы, на ўсіх добра размаўляла і пісала. Апрача таго, ведала нямецкую (праўда, не так, як тыя). Яна жыла з намі заўсёды, гэта значыць з 1934 года. Памагала мне рыхтаваць урокі нямецкай мовы. Размаўляла з намі па-беларуску, з суседзямі па-расейску. Праўда,

*Музыка*

# "ЗВАНОЧКІ" АДГУКАЮЦЦА НА ШЧЫРАСЦЬ

Некалькі гадоў назад падчас адпачынку сустрэліся два чалавекі мастацтва — вядомы кампазітар Уладзімір Дамарацкі і кіраўнік дзіцячага хору "Званочкі" Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Ала Мазурава. Сустрэча прывяла да творчых кантактаў, у выніку чаго з'явіліся цудоўныя дзіцячыя песні кампазітара, прызначаныя для харавога калектыву ліцэя.

Ала Мазурава — чалавек захоплены, тонкі, энтузіястычны ў сваёй харавой справе. У яе хоры спяваюць дзеці малодшых класаў, хор для іх — першае ўваходжанне ў свет калектыўнага музіцыравання. Педагог з вялікім вопытам, А. Мазурава кіруе хорам больш за 10 гадоў, адразу пасля заканчэння Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. За гэтыя гады з чыста дапаможнага хор ператварыўся ў самастойны калектыў, а дасягнуць гэтага дастаткова складана, бо спяваюць у хоры дзеці 1—3 класаў, заняткі адбываюцца толькі 2 гадзіны на тыдзень, даводзіцца пачынаць з самых элементарных навыкаў — валодання голасам, чысціні інтанацыі, выразнасці двух- і трохгалосся. А ў 3-м класе, калі з'яўляецца ўменне і ўмацоўваюцца галасы, дзеці расстаюцца з Алай Аляксандраўнай і пераходзяць у хор старэйшых класаў, а яна ўздыхае: "Калі б яшчэ хоць адзін год..."

Нягледзячы на гэта, калектыў "Званочкі" многае паспявае, спявае творы розных стыляў і жанраў, але пераважна музыку беларускую — народную і прафесійную, часам досыць складаную. Ала Аляксандраўна пастаянна заклапочаная пошукам свежага рэпертуару. Музыкант удумлівы і патрабавальны, яна арыентуецца на строгія крытэрыі ў яго адборы. Так, А. Мазурава лічыць, што дзіцячыя харавыя творы павінны быць па-за палітыкай, закранаць блізкія і зразумелыя дзецям тэмы, раскрываць іх захапляльна, запальваючы дзіцячыя душы. Тут у роўнай ступені важныя і слова, і музыка, прычым таленавітае дзіця, ды яшчэ побач з вопытным педагогам, нутром адчувае фальш, калі песня напісана без душы і творчай іскры, што нярэдка бывае ў дзіцячай музыцы. Мазурава адвяргае прымітыўнасць, яна не шукае лёгкіх шляхоў, а захапляецца матэрыялам складаным, праца над якім здатная развіць



выканаўчыя навыкі хору, узбагаціць яго радасцю творчасці, характэрнай для любога па-сапраўднаму адухоўленага працэсу выканання музыкі.

Спецыфіка хору, які спявае ў невялікім дыяпазоне, не перашкаджае Але Аляксандраўне развучваць і выконваць у канцэртах вялікую колькасць твораў як беларускіх аўтараў, так і кампазітараў-класікаў. У праграмах такіх выступленняў — Шуберт, Кюі, Векерлен і інш. Многія беларускія кампазітары супрацоўнічаюць з калектывам, для яго пісалі Я. Магаліф, М. Марозава, Г. Гарэлава. Хор рэгулярна ўдзельнічае ў філарманічных абанементных канцэртах для дзяцей, яго ведаюць і любяць сталічныя юныя аматары музыкі.

Творчая дружба А. Мазуравай з У. Дамарацкім аказалася плённай. Уяўленне кампазітара заўсёды адчувае дадатковы імпульс, калі ў працэсе напісання музыкі ён бачыць перад сабой канкрэтнага выканаўцу сваіх твораў, піша ў разліку на ягоныя магчымасці. Так адбылося і тут. Аўтар твораў у буйных інструментальных формах — сімфоній, Канцэрта для аркестра, Канцэрта для трубы з аркестрам і інш. — У. Дамарацкі апошнім часам напісаў таксама некалькі песень і рамансаў. Але дзіцячая тэма з'явілася ў яго нядаўна, і штуршком было менавіта супрацоўніцтва з А. Мазуравай і яе калектывам. Цудоўныя дзіцячыя песні раскрылі новыя грані таленту кампазітара. Калі ў інструментальнай музыцы ён сур'ёзны, схільны да маналагічнасці, драматычнай экспрэсіі, то песні ягоныя — агністыя, меладычныя і падзіцячы з хітрынкай. Ён лічыць, што прыйшоў да дзіцячай музыкі своечасова для сябе, бо сталасць душы дае магчымасць больш гарманічна, "здалёк" выявіць свет дзяцінства. Сучасныя танцавальныя рытмы, яркі меладызм, натуральнасць і нетрывіяльнасць інтанацыі, якая здаецца знешне простай, але разнастайна "расквечанай" знутры — усё гэта неаспрэчна надае прываблівасць вакальным мініяцюрам У. Дамарацкага.

І вось на Беларускім тэлебачанні прайшла перадача "Песні У. Дамарацкага". Радасныя, захопленыя музыкай твары дзяцей, непасрэднасць і разняволенасць выканаўчай манеры хору цудоўна адпавядаюць гульнёвым вобразам дзіцячых песень — восліка, жабкі, спрытнага ката. Дзеці адчуваюць сябе ў гармоніі з мастацтвам, а гэта — самы важны вынік іх яднання з музыкай. І хочацца спадзявацца, што гэтая з дзяцінства знойдзеная гармонія застанецца з імі і далей, бо яны ўсе абралі для сябе высокі шлях прафесійнага музыканта.

**Ніна СЦЯПАНСКАЯ**

*На здымку: Ала МАЗУРАВА з хорам.*
*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

лашчыла нас, а іншым разам і ўшчучвала — па-польску. Была вельмі прыгожая, статная...”

У Мінск яе прывезлі добрыя людзі-карпілаўцы. Яе сыноў Ваціка і Казіка арыштавалі, а саму Луцыю карпілаўцы схавалі і сярод начы прывезлі да Ванды ў Мінск. Пасля Луцыя будзе сведкай не адной нкусаўскай калатнечы. Падчас аднаго з вобыскаў бальшавіцкія рэквізітары разам з зяцевымі паперамі і кнігамі забяруць нават яе каталіцкі малітоўнік. Палічылі крамолай, замежнай літаратурай, запісалі ў вобыскны пратакол. Было гэта ў 1938 годзе.

Луцыя Гнатоўская-Лявіцкая не расставалася з сям’ёй Ванды да канца сваіх дзён. Памерла яна пятага красавіка 1945 года. “Бабуня наша Карпілаўку ўспамінала, пэўна, усё жыццё, але яна ведала: жыве ў сям’і сасланага і не “сыпала соль на раны”, — згадвала Алеся Лёсік у сваім лісце за 13.12.93.

Ну, а ці памятаюць, ці памятае хто Луцыю ў яе роднай Карпілаўцы? Памятаюць. Знайшліся такія людзі. Яшчэ ў васьмідзесятых гадах жылі Зося і Хведар Давідовічы. Вось яны і прыгадваюць, што не было найдабрэйшай ва ўсёй карпілаўскай акрузе душы, як пані Лявіцкая. Спагадная, рупная, што пчолка. Усё некуды бяжыць, рупіцца. Шапачку-кубанку надзене і бяжыць... Ці жніво, ці якая іншая праца, яна турбуецца пра жнеек і смачнейшага чаго ім нарэжа і трывалейшага — вяндліны, сальца, паляндвічкі і ўсіх усё панюшкамі ды душачкамі называла. Да яе наняцца было — як у госці схадзіць. Кошык грушак ці яблыкаў прынясе: “Ешце, жнеечкі, ешце, падвячоркуйце. Дух перавядзіце!..”

...У лістападзе 1994 года ў музеі Максіма Багдановіча ладзілася выстаўка чарнобыльскіх твораў Сяргея Давідовіча, мастака і паэта з Карпілаўкі, сына згаданых Зосі і Хведара Давідовічаў. Ідучы на выставу, я ўзяў з сабою і папачку з рознымі паперамі пра Карпілаўку. Сяргей Хведаравіч удумліва перабіраў іх, а калі на яго вока патрапіла падабізна шляхетнай маладзічкі з глыбокімі даверлівымі вачыма, спытаўся:

— А гэта хто?

— Луцыя Гнатоўская, жонка Ядвігіна Ш., — адказаў я.

— Дайце мне гэты здымак! — сказаў ён парывіста. — Я намалюю яе партрэт. Мне мама пра яе гэтулькі расказвала...

Я быў усцешаны, што да яго дайшоў голас Палуты Бадуновай, калі яна казала: “Такіх, як жонка Ядвігіна Ш., ніколі не забудзе ўдзячны наш народ!”.

Што ж, дабрыня не гіне, дабрыня дабрыню знаходзіць. Неўзабаве С. Давідовіч патэлефанаваў:

— Я сваё слова стрымаў. Толькі што намаляваў Купалу з Лявіцкім. Гуляюць між карпілаўскіх прысадаў. А з ганка дамка за імі назірае Луцыя!

Я таксама не стрымаўся, пахваліўся, што ўвесь сённяшні вечар руплюся над абразком пра Луцыю. А мы ж не дамаўляліся. Толькі пагаварылі пра свой намер. Значыцца, наспела пара ўспомніць добрым словам адну з тых, хто, паводле слоў усё той жа П. Бадуновай, без адзінага дакору трымала на сваіх плячах і сям’ю, і гаспадарку, вызваляючы мужу-пісьменніку час на беларускія справы.

Луцыі Гнатоўскай даўно ўжо няма. Але ў родзе Лявіцкіх па-ранейшаму ёсць Луцыя. Гэтым імем названа адна з унучак Ядвігіна Ш. Кажуць, што яна і знешне падобная на сваю бабку. Што ж, усё можа быць... Ва ўсякім разе імя ўнучкі ўсім нам нагадвае пра абранніцу Ядвігіна Ш., якая скрашвала яго жыццё, жыццё цэлага кута на Планеце Зямля, што зваўся калісь фальварак Карпілаўка.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

# ЁН ЦАНІЎ ГОДНАСЦЬ

*(Пачатак на сатр.13)*

На пачатку кастрычніка з вузкага кола самых блізкіх калег і сяброў стварылася група. Уваходзілі ў яе склад будучыя знаныя артысты Бярнард Ладыш, актор Фердынанд Траяноўскі, кампазітар Раман Зялінскі і яшчэ колькі асоб. Прынялі прысягу. Тады гэта не называлася Арміяй Краёвай. Наша група ўваходзіла ў склад польскай падпольнай арганізацыі “Лучнасць збройнага змагання”, якая праз пэўны час перайшла пад кіраўніцтва АК.

7 траўня 1943 года па даносе аднаго з работнікаў чыгуначнай адміністрацыі я быў арыштаваны нямецкімі ўладамі. Апроч мяне тады схапілі яшчэ чатырох маіх калег. Пасадзілі ў турму ў Вержбалове (гэта апошняя пагранічная станцыя паміж Усходняй Прусіяй і Літвой), а пасля перавезлі ў Тыльзіт. Адтуль — да цяжкай турмы Рабініт. У мінулым гэта быў крыжацкі замак — астатні замак на ўсходняй граніцы. Там да кастрычніка вельмі цяжка працаваў. Пасля турмы ў Рабініце павезлі нас праз Кёнігсберг, Варшаву і Кракаў да Асвенціма. У Варшаве мелі начлег на вуліцы Данілавічоўскай. Тут прадстаўнікі Галоўнай Рады апякунчай арганізацыі, якая мела правы на доступ да ўсіх вязняў, даведаліся, што з поўначы на поўдзень едзе нейкі транспарт. Атрымалі магчымасць спаткацца з намі і далі паштовыя карткі, каб мы маглі б даць для сваіх блізкіх кароткія звесткі пра сябе. Напісаў тады маме, што знаходжуся ў дарозе да Асвенціма. Калі трапілі ў Асвенцім, у камендатуры нам абвясцілі прысуд. З яго вынікала, што тут, у лагеры, мы застанемся да канца вайны. А па яе заканчэнні будзе судовы працэс, звязаны з нашай дзейнасцю супраць нямецкага народа. Мне забаранілі перапіску. І калі мама не атрымала праз доўгі час ад мяне інфармацыі, то звярнулася з лістом да камісара GRENZOSTLAND Віленскай Акругі. Праз яго выслала мне ў Асвенцім пасылку. Ведаю, што мама цяжка працавала, каб штокольвек выслаць мне. Яе запытанні пра мяне ў каменданта закончыліся звесткаю пра маю смерць. Той ліст трапіў у Асвенцім. Выклікалі мяне ў палітычны аддзел, адтуль рэдка хто вяртаўся ў лагерны барак. І мяне пыталіся, чаму не пішу лістоў да маці. Загадалі напісаць дадому, нягледзячы на ранейшую забарону. Лісты трэба было пісаць на нямецкай мове. Нямецкай не ведаў, напісаў па-польску, так, каб супакоіць маму. Перакладчыцамі былі вязніяўрэйкі. Яны, як правіла, гінулі, бо зашмат ведалі.

Гэта было на пераломе чэрвеня-ліпеня 1944 года. Праз нейкі час ліст вярнуўся. З пячаткаю “FELDPOST”, дата — 14 ліпеня 1944 г. і штэмпелем “Benekon”. Я не ведаў, што 14 ліпеня віленскія атрады АК і савецкія войскі занялі Вільню. Таму ліст не знайшоў адрасата, і для мамы я заставаўся памёршым.

У кастрычніку 1944 года, калі пачалася ў Асвенціме эвакуацыя, нас перавезлі да адной з філій лагера Бухенвальд. Гэта была капальня солі, якую ў часе вайны перабудавалі на фабрыку па вытворчасці рухавікоў для самалётаў. А больш дакладней — механічных частак да тых рухавікоў. 14 красавіка 1945 года нас вызвалілі амерыканскія войскі. Так вось прыблізна выглядаў бы перыяд майго жыцця з часоў акупацыі.

Два-тры месяцы па вызваленні пазнаёміўся з Данутай, з якой разам вярнуліся да краю напрыканцы ліпеня 1945 года. У лістападзе 1948-га ўзялі шлюб у касцёле ў Прушкове пад Варшавай. І разам да сённяшняга дня.

Адразу па вызваленні, калі вярнуўся ў Польшчу, шукаў маму. Пазней даведаўся, што яна засталася ў Вільні. Напісаў ліст і не атрымаў адказу. Падказалі мне, каб напісаў да польскага Консульства ў Вільні. Там працаваў чалавек з нашага дома і перадаў ліст маме. Праз пэўны час яна прыехала, і мы нарэшце сустрэліся.

У пасляваеннай Польшчы мы, на жаль, не мелі магчымасці што-кольвек даведацца пра бацьку. Гэта быў перыяд актыўнай дзейнасці польскай службы бяспекі, таму не мог кранаць тэмы, якая мяне найбольш хвалявала. Зрабіў гэта толькі ў 80-я гады. але хоць бы адна канкрэтная інфармацыя! У працы гестапа было па-іншаму. Калі мяне арыштавалі, мама адразу даведалася, у якой турме і за што знаходжуся. Падалі адрас, каб яна магла напісаць. Адносіны да вязня не былі пяшчотнымі (на следстве ў часе допытаў некалькі разоў траціў прытомнасць), але інфармацыя была заўсёды. Пазней, калі хацеў мець пасведчанне пра знаходжанне ў лагеры, атрымаў праз Чырвоны Крыж дэтальны адпіс. Была там дата арышту, дата прыбыцця ў лагер, дзень, у які прывезлі ў Асвенцім, даты прыбыцця ў Заксенхаўзен, Раенбург, а потым — да капальні Бухенвальда. Не хапала толькі гадзін і мінут. Як ні дзіўна, у дакуменце быў пазначаны нават дзень нашага вызвалення амерыканцамі. Мае ж спробы пошукаў бацькавага следу разбіваліся аб сцяну маўчання і няведання.

Адзіная больш-менш канкрэтная інфармацыя паходзіла з ліпеня 1941 г. Калі пачалася вайна і немцы занялі Вільню, у адной з віленскіх газет была апублікавана рэляцыя якогасьці былога вязня са Старой Вілейкі. Ён пісаў, што ў суседняй камеры сядзеў, між іншым, Уладзімір Самойла, знаны віленскі дзеяч і літаратар і што яго забіралі заўсёды ўвечары.

Вось і ўсе звесткі... Дзе загінуў і калі — невядома. У адной беларускай энцыклапедыі пададзена, што памёр у 1940-м. У другой — у 1941 годзе.

Праз Консульства Рэспублікі Польшча ў Мінску высылаў некалькі лістоў да Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі з просьбай паінфармаваць, дзе магіла бацькі і якія захады ў справе яго рэабілітацыі робяцца на Беларусі. Адказы, на жаль, не суцешылі.

Звяртаюся да ўсіх, хто мог бы дапамагчы ў справе пошукаў якіх-кольвек звестак пра лёс майго бацькі.

*Варшава. 16 красавіка 1994 г.*

**Пераклад, падрыхтоўка да друку і публікацыя Ю. Гарбінскага**

# ВЫСТАВА МАДЭРНУ — ВЫСТАВА ДЛЯ ЭЛІТЫ?

Мабыць, менавіта Нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ першым абаснаваўся на Беларусі і адразу ж заняў той культурны вакуум, які стаў асабліва вострым і адчувальным у “пасляперабудовачнай” раз’інтэграцыі. Дапамога (і грашовая ў тым ліку), акцыі, сустрэчы, семінары, кінафестывалі і, зразумела, мастацкія выставы — гэта далёка не поўны пералік таго, што адбылося за апошнія некалькі год. І што цікава: перыяд азнаямлення з культурай нашай рэспублікі (якая магла ўяўляцца з далечыні ледзь не абарыгенскай) нарэшце скончыўся. Зважаючы на мастацкія выставы, адзначаеш: штораз іх узровень павышаецца; досыць агульныя зборы сучаснага авангарда (да якіх гэтаксама немцы падыходзілі з характэрнай акуратнасцю і педантызмам) змяніліся асобнымі экспазіцыямі вядомых творцаў, пра што немажліва было і марыць нашаму гледачу колькі год таму. Апошняя імпрэза ў Нацыянальным мастацкім музеі была прысвечана творчасці класіка, пачынальніка эры мадэрнісцкай эстэтыкі Максіма Клінгера і сталася, па сутнасці, выставай для эліты, гледзячы па сур’ёзнасці і нешматлікасці яе наведвальнікаў. Шкада толькі, што дасюль па нейкіх невядомых прычынах Нямецкі культурны цэнтр не зарэгістраваны афіцыйна, і гэта аніяк не дадае гонару рэспубліцы ў вачах замежнікаў і выклікае зразумелае засмучэнне кіраўніцы цэнтра Веры Багальянс.



*Кіраўніца Нямецкага культурнага цэнтра імя Гэтэ В.Багальянс.*



*М.Клінгер. “Першае інтэрмецца”.*



*М.Клінгер. “Нарцыс і рэха”.*

Тым не менш выстава Макса Клінгера адбылася. Заняўшы цалкам і вельмі шчыльна галерэю Мастацкага музея, яна ўражвае і непасрэдна самой творчасцю мастака, і тым, што экспазіцыя такога класа ў нас — рэдкасць. Макс Клінгер не дужа вядомы беларускаму гледачу, што можна зразумець, і слаба вядомы прафесіяналам, што можна аднесці толькі да ўзроўню нашага мастацтвазнаўства. Скульптар і жывапісец, стваральнік манументальных палотнаў, аўтар тэарэтычнай манаграфіі “Жывапіс і малюнак”, дзе прагучалі вызначальныя і для нашага часу словы — “у нас ёсць майстэрства, але няма мастацтва”, Макс Клінгер (1857—1920) вядомы ў свеце як графік. У яго творчасці адбыўся эстэтычны сінтэз, які пазней “абстрактныя” мастакі XX ст. здзейснілі ўжо разгорнута — чыста сімвалічнымі сродкамі фарбаў і формы. Нездарма пра М. Клінгера як пра “настаўніка” і пачынальніка пранікнёна гаварыў на цырымоніі адкрыцця выставы вядомы беларускі графік А. Кашкурэвіч. Насычаныя, багатыя тэхнічна гравюры Клінгера ўражваюць складаным перапляценнем знаходак і метамарфозаў. Яны здаюцца здзейсненай прапагандай тэорыі мастака аб сукупнасці ўсіх відаў творчасці, стварэння абагуленага вобраза, што і сталася пазней асновай росквіту “новага” мастацтва.

На выставы такіх майстроў, як М.Клінгер, і на Захадзе не стаяць чэргі. Зрэшты, гэта натуральна. Элітнасць выставы вызначаецца хутчэй агульным узроўнем, падрыхтаванасцю патэнцыяльных гледачоў, а не наяўнасцю нейкага элітнага класа. Але само па сабе з’яўленне такой выставы на Беларусі — прызнанне сур’ёзнасці адносін да культурнага супрацоўніцтва з боку замежных суседзяў.

**Н. Ш.**



Калектыў рэдакцыі часопіса “Тэатральная Беларусь” выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару САБАЛЕЎСКАМУ А. В. у сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — заўчаснай смерцю жонкі Венеры Архіпаўны.

Міністэрства культуры і друку выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару часопіса “Тэатральная Беларусь”, загадчыку кафедры Беларускага універсітэта культуры САБАЛЕЎСКАМУ Анатолю Вікенцьевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю жонкі.

